



# Рэгіянальная газета. Rh.by




тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

15 красавіка 2016 года №16 **(1094)**


## Якія дамы плануюць адрамантаваць і пабудаваць на Вілейшчыне

старонка 2

## У Вілейцы прайшла міжнародная канферэнцыя па Павіллі

старонка 6

## Каму даўжэй за ўсіх прыйдзецца чакаць выхаду на пенсію

старонка 18

## Маладзечанец зрабіў беларускую агучку для хакейнага сімулятара НХЛ 09

старонка 22

старонка 2

Фота Настассі РОЎДЫ.

# У цэнтры Маладзечна сярод старых 4-павярховак вырасце 9-павярхоўка

# Жыхары суседняга дома – супраць

## Якія дамы плануюць адрамантаваць і пабудаваць на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

Па Вілейскай ЖКГ сёлета запланавана выканаць капітальны рамонт наступных жылых дамоў у Вілейцы:

- ✓ капітальны рамонт з элементамі мадэрнізацыі дамоў №№63, 67, 72, 74, 76 па вуліцы 1 Мая;
- ✓ капрамонт з мадэрнізацыяй дома №75 па вуліцы Лаўрыновіча;
- ✓ капрамонт з уцяпленнем сцен дома №16, корпус 3 па вуліцы Гагарына;
- ✓ капрамонт дома №47 па вуліцы 1 Мая.

У вёсцы Любань плануюць зрабіць капрамонт з цеплавой мадэрнізацыяй фасадаў дома №3 па вуліцы Касманаўтаў.

### Што мяркуюць пабудаваць

У таварыстве "Сцешыцы" плануюць пабудаваць чатыры аднакватэрныя дамы ў Сцешыцах. На прадпрыемстве "Усходні агра" – тры аднакватэрныя дамы ў Крывым Сяле.

**Сёлета плануюць пабудаваць і здаць у эксплуатацыю тры жылыя дамы ў Вілейцы.**

Па дзяржзаказе: 12-кватэрны па вуліцы 17 Верасня і 60-кватэрны "Паўночны-34" па вуліцы Гарадзішчанскай.

А яшчэ – 60-кватэрны арэндны дом "Паўночны-32" па вуліцы Гарадзішчанскай.

**По інфармацыі аддзела ЖКГ райвыканкама.**

## У Вілейцы змянілася каля трох тысяч нумароў

ВІЛЕЙКА

У сувязі з мадэрнізацыяй тэлефоннай сеткі ў Вілейцы на аптычнавалаконныя тэхналогіі ў мікрараёне "Зеніт" змяніліся нумары, якія пачыналіся на 36, 37, 38, 39. Гэта тычыцца нумароў і кватэр, і некаторых прадпрыемстваў і арганізацый.

Працы вяліся паступова, завяршыліся яны ў красавіку. Усяго замянілі каля трох тысяч нумароў тэлефонаў.

Пра новыя нумары можна даведацца ў даведачнай службе **109**. Пра гэта паведаміў начальнік Вілейскага вузла электрасувязі **Уладзімір Мароз.**

**Аддзел інфармацыі.**

ТЭМА НУМАРА

# У Маладзечне пабудуюць дзевяціпавярхоўку

## Жыхары суседняга дома – супраць

МАЛАДЗЕЧНА

**За гандлёва-эканамічным каледжам пабудуюць дзевяціпавярховы дом.**



Фота Настассі РОЎДЫ

Цяпер у жыхароў дома №60 па Вялікім Гасцінцы бялізна сушыцца побач з будоўляй.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Вадзім Цар**:

– Дзевяціпавярховы дом на 54 кватэры плануецца здаць у студзені 2017 года. Дом будуецца долевым спосабам.

Гэта значыць, што людзі, якія жадаюць набыць кватэру ў гэтым доме, заключаюць дагавор і цягам будаўніцтва выплачваюць поўны кошт жылля. Пры гэтым, перад тым як заключыць дагавор з людзьмі, 15% будаўніцтва адбываецца за кошт заказчыка – упраўлення капітальнага будаўніцтва.

### Жыхары суседняга дома ў двор тэхніку не пускаюць

Жыхары дома №60 па вуліцы Вялікі Гасцінец абураныя тым, што ў іх пад вокнамі вырасце 30-метровы дом.

Ужо сёння, кажуць яны, у двары немагчыма ні пагуляць дзецям, ні падыхаць паветрам пенсіянерам, ні высушыць памытую бялізну.

У рэдакцыю газеты звярнулася мясцовая жыхарка **Тамара Аляксандраўна**:

– Мы абураныя тым, што з нашым меркаваннем мясцовыя ўлады нават не выршылі патрэбным лічыцца. Мы два тыдні бунтуем. Ці нармальна гэта, калі 92-гадовая жыхарка дома выходзіць на вуліцу, каб перагарадзіць дарогу тэхніцы?

Тамара Аляксандраўна расказала "Рэгіянальнай газеце", што ў сувязі з будаўніцтвам сметніцу з двара рабочыя перасунулі акурат пад вокны жыхароў першага пад'езда.

– А хутка пацяплее, вы ўяўляеце, як мы будзем дыхаць гэтым паветрам?

Скардзяцца жыхары і на адсутнасць месцаў для паркоўкі ў двары, а таксама на тое, што дзецям цяпер няма дзе пагуляць.

– Тут не толькі дзеці гулялі, сюды прыходзілі маладыя людзі займацца спортам, тут жа ўсё для гэтага было: пляцоўка, турнікі. Памятаю, сам тут у маладосці займаўся, а цяпер – унук, – распавядае жыхар дома **Валянцін Аляксандравіч**. – Нам кажуць, што парк пад бокам. Але да парку не кожны дойдзе. Ды і такой пляцоўкі, як была ў нашым двары, паблізу нідзе няма.

Жыхар **Руслан** прыгадвае, што з просьбай пабудаваць у двары паркоўку хаця б на некалькі месцаў звярталіся да мясцовых уладаў неадночы.

– Адказ адзін: няма грошай. А нам машыну паставіць няма куды. Былі і з гэтым праблемы. Гаспадар крамы, што месціцца ў нашым доме, неадназова выклікаў ДАІ, калі нехта паркаваўся на стаянцы магазіна. Мы нават не супраць гэтага дома, ну што ж зробіш, калі так вырашылі, але можна ж і да нас па-чалавечы паставіцца?

На момант напісання матэрыялу жыхары збіраюць подпісы і думаюць ісці да старшыні Маладзечанскага райвыканкама, каб той разабраўся ў складанай сітуацыі, у яны якой апынуліся.

Вадзім Цар на пытанне пра прэтэнзіі жыхароў адказаў:

– Гэтыя пытанні можна вырашыць цягам аднаго дня. Сметніца блізка да пад'езда – дык можна яе перасунуць. Дзецям гуляць няма дзе? А як жа парк, які насупраць?

### 9-павярхоўка ў цэнтры – гэта архітэктурны акцэнт

Дзевяціпавярхоўка, якая ўжо ў лістападзе вырасце па Вялікім Гасцінцы, 60-а, адзіны вышынны будынак сярод чатырохпавярховых дамоў.

**Згодна з нарматыўнымі дакументамі (Тэхнічны кодэкс існуючай практыкі), мінімальныя адлегласці паміж жылымі, сумежнымі будынкамі і будынкамі на тэрыторыі жылой забудовы не рэгламентуюцца. Жылыя шматкватэрныя, у тым ліку і шматпавярховыя, дамы могуць размяшчацца паралельна адзін аднаму на невялікай адлегласці пры ўмове захавання супрацьпажарных правілаў і нормаў па інсаляцыі (апраменьванне паверхняў сонечным святлом) і асветленасці.**

Як гэты дом упішацца ў архітэктуру горада, запыталіся мы ў начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама **Святланы Хрусталёвай.**

– Будаўніцтва дзевяціпавярховага дома прадугледжанае дэталёвым праектам цэнтральнай часткі горада. Дом па Вялікім Гасцінцы стане пунктам акцэнту. Тут жа непадалёк месціцца 12-павярховы будынак гасцініцы і АТС. Такімі пунктамі-акцэнтамі, акрамя гэтага дома, стануць дамы па вуліцы Валынца, дзе быў дзіцячы садок, у двары па вуліцы Прытыцкага, на вуліцы Машэрава.

Адносна незадаволеных жыхароў суседніх дамоў, Святлана Хрусталёва тлумачыць, што па гэтым будаўніцтве яшчэ ў 2010 годзе прайшлі грамадскія абмеркаванні і тыя, хто хацеў, мог уносіць свае прапановы.

– Тады інфармацыя па абмеркаванні доўгі час была апублікаваная на сайце райвыканкама, пра гэта пісалі газеты і здымала сюжэт тэлебачанне. У нас захоўваюцца ўсе пратаколы той сустрэчы.

Яшчэ адно пытанне тычылася таго, ці могуць жыхары дамоў адчуваць сябе ў бяспецы, калі побач ідзе будаўніцтва. І вышынныя краны працуюць акурат пад вокнамі:

– Гэта часовыя нязручнасці, трэба пацярпець. Вядома, усе меры па бяспецы будуць прынятыя. Будзе праваць і тэхнагляд, і аўтарскі нагляд.

Святлана Хрусталёва тлумачыць, што новабудоўлі ў цэнтры горада – гэта адзінае выйсце:

– Ніхто нам не дазваляе будаваць на сельскагаспадарчых землях, а ў межах горада ўжо амаль не засталося незабудаваных плямаў. Таму і застаецца толькі будаваць дамы, згодна з планам ушчыльнення гарадоў.

Сёння на чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў стаіць каля 11 000 маладзечанцаў.

– А ў новых дамах прадугледжаныя кватэры і для сямей, якія стаяць на чарзе, – кажа Святлана Хрусталёва.




Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

● МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Прадпрыемствы з нямецкім капіталам хутка адаптуюцца

**Эканамічную сітуацыю ацанілі як негатыўную, але чакаюць, што горш ужо не будзе.**

Так можна прадставіць вынікі апытання "Дзелавы клімат у Рэспубліцы Беларусь 2016". У ім прынялі ўдзел 60 прадстаўнікоў кампаній з пераважна нямецкімі інвестыцыямі, якія працуюць у нашай краіне.

У пяты раз апытанне правяло Прадстаўніцтва нямецкай эканомікі ў Беларусі.

Па словах яго кіраўніка **Уладзіміра Аўгусцінскага**, доля негатыўных ацэнак агульнай эканамічнай сітуацыі ў краіне перавысіла 70% (летась такіх было 52%, у 2014 годзе – 43%). Доля рэспандэнтаў, якія ацанілі эканамічнае становішча як здавальняючае, знізілася амаль у два разы – з 48% да 26%.

Але неадноўчы выступоўцы, у тым ліку пасол ФРГ у Беларусі **Петэр Дэтмар**, звярталі ўвагу на супярэчлівасць. Хоць столькі ўдзельнікаў сённяшнюю эканамічную сітуацыю ў Беларусі ацэньваюць як негатыўную, але усё ж эканамічнае становішча свайго прадпрыемства больш за 85% назвалі пазітыўным, або здавальняючым.

Прычына гэтага можа заключацца ў тым, што шмат прадпрыемстваў з нямецкім капіталам працуюць на экспарт і вельмі хутка адаптуюцца да зменлівых умоў.

Адзначалі яшчэ пазітыўны трэнд: колькасць прадпрыемстваў, якія чакаюць сёлета становчае развіццё альбо стабілізацыю эканамічнай сітуацыі, прыкметна ўзрасла – амаль да 60% (летась было каля 25%). Ад гэтай колькасці амаль 11% апытаных чакаюць, што эканамічная сітуацыя ў Беларусі ў 2016 годзе палепшыцца. Гэта ў пяць разоў больш, чым летась.

Колькасць тых, хто лічыць, што яна пагоршыцца, зменшылася з 52% у 2015-м да 42% у 2016-м.

– Ёсць пэўны аптымізм. Мы бачым, што



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Старшыня праўлення нямецка-беларускага эканамічнага клуба Ховсэп Васканян лічыць, што ёсць пэўны аптымізм, але сітуацыя застаецца складанай.

трэнд далейшага пагаршэння спынены, – падагуліў старшыня праўлення нямецка-беларускага эканамічнага клуба **Ховсэп Васканян**. – Можа, складваецца адчуванне, што мы дасягнулі піка складанасці – па меншай меры, гэта суб'ектыўнае ўражанне, якое перадае апытанне. У той жа час не бачым, што чакаецца дынамічны рост і паляпшэнне. Сітуацыя застаецца складанай.

Падчас прэзентацыі ішла размова аб неабходнасці структурных рэформаў у Беларусі.

### Што спрыяе бізнес-клімату ў Беларусі

Падчас ацэнкі фактараў дзелавога клімату ў краіне найлепш ацанілі: інфраструктуру, палітычную стабільнасць, кваліфікацыю работнікаў, якасць акадэмічнай адукацыі, матываванасць працаўнікоў.

Найбольшую колькасць негатыўных ацэнак выклікалі: плацежная дысцыпліна, якасць фінансавых паслуг, прадказальнасць эканамічнай палітыкі, гнуткасць працоўнага заканадаўства.

### Дзелавы клімат у параўнанні з іншымі краінамі

Сёлета Беларусь была ацэнена ў рэйтынгу прывабнасці краін значна лепш, чым раней: 13 месца з 24 краін. Летась наша краіна была на 19 месцы. Прычым цяпер Беларусь паставілі вышэй за Чарнагорыю, Сербію, Венгрыю, Харватыю і Балгарыю.



## Сортавыпрабавальная станцыя: частку элітнага насення аддалі на корм жывёле

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю праверыў Маладзечанскую сортавыпрабавальную станцыю.

Праверка паказала, што склады патрабуюць абавязковай рэканструкцыі і пераабсталявання. Трэба набыць малагабарытную пасяўную і глебаапрацоўчую тэхніку, сучасныя машыны для падрыхтоўкі партый насення, каб выканаць патрабаванні пасяўных стандартаў.

Асноўныя машыны, механізмы і складскія памяшканні зношаныя. Да пытання тэхнічнага пераабсталявання паставіліся фармальна. Распрацавалі план мадэрнізацыі, які штогод не выконвалі.

Усе недахопы ўплываюць на якасць насення і аб'ём яго вытворчасці. Гэта пацвярджае штогадовае невыкананне задання па вытворчасці насення і яго неналежная якасць. Таму іх аддаюць на кармавыя ці вытворчыя мэты.

Напрыклад, з агульнага ўраджаю 2014 года на гэтыя мэты скарысталі каля паловы суперэлітнага гароху Лазурны, элітнай азімай пшаніцы Багатка, суперэлітнага азімага рапсу Прагрэс.

Як патлумачылі службовыя асобы, з-за незапатрабаванасці 25 тон нават кандыдыйнага матэрыялу ўраджаяў 2013 і 2014 гадоў аддалі на корм жывёле.

Арыгінальнае і элітнае насенне сельскагаспадарчых раслін – самае якаснае і высокапрадуктыўнае. Яно садзейнічае высокай акупляльнасці затрат.

### Куды ішла дзяржпадтрымка

Каб зацікавіць сельскагаспадарчыя арганізацыі ў абнаўленні сартоў, дзяржава садзейнічае таму, каб насенне было больш танным.

Але праверка паказала, што гэта дзяржаўная падтрымка не дайшла да канчатковага спажыўца – сельгаспрадпрыемстваў. Больш за 88 мільёнаў рублёў, атрыманых за 2011 – 2015 гады, станцыя скарыстала на свае патрэбы. І толькі пасля ўмяшальніцтва Камітэта суму вярнулі сельгаспрадпрыемствам.

### "Па-ціхаму" здабылі тысячу тон гравійкі

Каб правесці рамонтныя работы, установа атрымала месца для распрацоўкі ўнутрыгаспадарчага кар'ера. Але кіраўніцтва вырашыла "па-ціхаму" і бясплатна здабываць пясчана-гравійную сумесь у кар'еры суседняга сельгаспрадпрыемства "Маркава-Агра". Так станцыя несанкцыянавана здабыла больш за тысячу тон. Калі б арганізацыя набывала гэту сумесь, то выдаткавала б 100 мільёнаў рублёў.

Па выніках праверкі станцыю аштрафавалі на 50,4 мільёна рублёў, а пяць службовых асоб – на агульную суму 8,2 мільёна.

**Паводле Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**806** столькі на пачатку года ў краіне было чалавек ва ўросце за **100** гадоў

З іх **682** жанчыны і **124** мужчыны

Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 7.04 руб. | 14.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 20 236,00 | **19 849,00** |
| Еўра | 22 977,00 | **22 536,00** |
| Злоты | 5 426,17 | **5 296,57** |
| Расійскі рубель | 295,36 | **301,52** |
| Грыўня | 776,02 | **778,22** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 13.04** | | |
| Еўра | 22700/23050 | **22400/22700** |
| Долар ЗША | 20150/20300 | **19700/19870** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 6.04 Цана руб. | 13.04 |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 169 900 | **179 800** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **28 900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 41 500 | **42 500** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **13 500** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 19 500 | **19 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | **7 500** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 69 500 | **65 000** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 14 900 | **18 500** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 7 500 | **9 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 54 500 | **47 000** |
| Лімоны, 1 кг | 40 000 | **47 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 500 | **24 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 26 500 | **26 500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 24 500 | **24 500** |
| Ківі, 1 кг | 34 500 | **29 900** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 38 500 | **36 500** |
| Агуркі, 1 кг | 27 000 | **28 500** |
| Перац, 1 кг | 68 900 | **59 900** |
| Радыска, 1 кг | - | **39 000** |
| Вінаград, 1 кг | 45 000 | **38 500** |
| Бананы, 1 кг | 27 900 | **27 900** |
| Гранаты, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 57 500 | **45 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 14 000 | **14 500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 000 | **26 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 60 000 | **60 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Родныя памерлай жанчыны у чаканні вынікаў экспертызы

**МАЛАДЗЕЧНА**

Трагедыя, калі ў раддоме памерла маладая жанчына, адбылася ноччу 5 красавіка. У Следчым камітэце пацвердзілі, што факт гібелі ёсць. Цяпер праводзіцца праверка.

Муж памерлай жанчыны расказаў, што ў Мінску на працягу месяца будзе праводзіцца экспертыза, вынікі якой перададуць у Следчы камітэт Маладзечна.

– Нас запэўнілі ў самым дасканалым яе правядзенні. І па выніках усяго будуць прымяняцца якія-небудзь дзеянні. Мы прыкладзём усе сілы, каб знайсці праўду і справядлівасць.

Вядома, што памерлай жанчыне было 28 гадоў, нарадзіла яна хлопчыка. Бацька хлопчыка кажа, што ён здаровы:

– Так, наша сонейка ў парадку, такі харошанькі малы, будзем спадзявацца, што ўсё будзе выдатна з ім і забярам яго дадому здаровага!

## Кіроўца наехаў на жанчыну ў 2:45 ночы

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося 10 красавіка каля 2:45 ночы на перакрыжаванні Вялікага Гасцінца і Багдана Хмяльніцкага.

Як распавёў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**, 25-гадовы маладзечанец ехаў на "Кія-Спартэйдж" па Вялікім Гасцінцы ў накірунку Смаргоні. На нерэгуляваным пешаходным пераходзе, святлафор у гэты час не працаваў, кіроўца наехаў на 56-гадовую жыхарку Маладзечанскага раёна. Жанчына пераходзіла праезную частку ў бок СШ №6.

У здарэнні жанчына атрымала адкрытую чэрапна-мазгавую траўму цяжкай ступені, пералом асновы чэрапа, закрытую траўму шыйнага аддзела пазваночніка і іншыя траўмы і пераломы.

Адразу пасля здарэння яе даставілі ў рэанімацыю. Кіроўца раней не быў судзімы, паведаміў "РГ" старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

## З помнікаў на вясковых могілках скралі крыжы на металалом

**ВІЛЕЙКА**

Адбылося гэта на могілках паблізу вёскі Гарыдавічы ля Куранца.

Паведамленне ў Вілейскі РАУС паступіла 10 красавіка ля апоўдні. На месца выехала следча-аператыўная група на чале з начальнікам райаддзела **Аляксандрам Каратышом**.

Устанавілі, што з помнікаў на магілах скралі адзінаццаць крыжоў. Адбылося гэта ў перыяд ад 2 да 8 красавіка.

Неўзабаве ўстанавілі падазраваных у крадзяжы. Іх затрымалі. Гэта жыхары Куранца: 53-гадовы бацька і 30-гадовы сын. Яны пастаянnай працы не маюць. Сям'я іншага зарабляюць на жыццё і тым, што збіраюць і здаюць металалом, расказаў начальнік аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Дзмітры Антановіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Смяротны прысуд віляйчаніну пакінулі ў сіле

**Гэта стала вядома 8 красавіка. Зранку ў Вярхоўным Судзе разглядалі апеляцыйную скаргу асуджанага да смяротнага пакарання жыхара Вілейкі Генадзя Якавіцкага.**



Смяротны прысуд віляйчаніну вынеслі за тое, што ён збіў да смерці сужыцельніцу.

Нагадаем, што 5 студзеня ў Вілейцы абласны суд вынес смяротны прысуд 48-гадоваму віляйчаніну, які збіў да смерці сужыцельніцу.

Раней мужчыну прыгаворвалі да смяротнага пакарання за здзейсненыя ў 1989 годзе злачынствы. Але па яго скарзе Вярхоўны Суд прысуд адмяніў і смяротнае пакаранне замянілі на 15 год калоніі.

На разглядзе скаргі ў Вярхоўным Судзе прысутнічаў каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" **Андрэй Палуда**.

– Віляйчанін трымаўся дастаткова ўпэўнена, не было адчування, што воля яго падаўленая – як гэта нярэдка бывае пры разглядзе падобных спраў, – кажа ён. – Адказваў разгорнута на ўсе пытанні. Увесь час указваў на нестыкоўкі ў справе: неналежны разгляд вынікаў судовай экспертызы, тое, што сведка не мог успомніць усіх абставінаў.

Віляйчанін прызнаваўся, што нанёс ахвяры пяць удараў (экспертыза паказала 46). Сцвярджаў, што не здзяйсняў забойства. Але адчувае віну за тое, што не ўратаваў сужыцельніцу, дадае Андрэй.

Пракурор настойвала на тым, што віна Якавіцкага ў забойстве цалкам даказаная, і ён уяўляе павышаную небяспеку для грамадства. Бо ні ўдзел у двух забойствах, ні тое, што смяротны прысуд ужо аднойчы замянілі на 15 гадоў пазбаўлення волі не паставілі яго на шлях выпраўлення.

У выніку Калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Беларусі адхіліла апеляцыйную скаргу і пакінула ў сіле смяротны прысуд віляйчаніну.

### Што далей

Андрэй Палуда патлумачыў, што будуць звяртацца з просьбай аб памілаванні да Прэзідэнта Беларусі, а таксама ў Камітэт па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Згодна з Правіламі працэдур Камітэта, дзяржава не павінна прыводзіць у выкананне смяротны прысуд да разгляду звароту па сутнасці ў ААН. Праўда, у выпадку з яшчэ адным віляйчанінам **Паўлам Селюном**, яго расстралялі да разгляду справы ў Камітэце па правах чалавека ААН.

**Аддзел інфармацыі.**

## Следчы камітэт шукае маладзечанца

**МАЛАДЗЕЧНА**

За ўхіленне ад адбывання пакарання ў выглядзе абмежавання свабоды Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта вышуквае **Сяргея Міхайлавіча Колбуна**.

Нарадзіўся 25 кастрычніка 1996 года, жыў у Маладзечне па вуліцы Францішка Скарыны, 19.



Калі вам штосьці вядома пра месцазнаходжанне Сяргея Колбуна, паведамляйце ў Маладзечанскі РАСК па тэлефонах **(8-0176) 77-16-47, (8-029) 767-41-77** альбо ў бліжэйшы аддзел міліцыі па нумары **102.**

**Па інфармацыі Маладзечанскага РАСК.**

## Прастрэленыя колы не маглі спыніць п'янага кіроўцу

**АШМЯНЫ**

Здарэнне адбылося 12 красавіка.

Атрымаўшы інфармацыю, што ў аграгарадку Жупраны, як мяркуецца, нецвярозы ездзіць на "Хюндаі", інспектары ДПС адразу паехалі туды.

На патрабаванне спыніцца кіроўца не адрэагаваў і рух працягнуў.

На святлогукавую сігналізацыю патрульнага аўтамабіля ён не рэагаваў.

Пасля выезду на аўтадарогу "Барысаў-Вілейка-Ашмяны" і папярэджання аб намеры выкарыстаць табельную зброю парушальнік у бок райцэнтра панёсся яшчэ хутчэй.

Заехаўшы ў горад, ён мог стварыць пагрозу для яго жыхароў.

Падазраючы, што кіроўца знаходзіцца ў стане ап'янення, інспектар спачатку страляў у паветра, потым – па колах.

Нягледзячы на прабітыя шыны, парушальнік не думаў спыняцца, таму давялося выкарыстоўваць пісталет для пашкоджання рухавіка.

Каля вёскі Дукойні "Хюндай" спыніўся.

Кіроўцам аказаўся 32-гадовы жыхар Ашмянаў, які шэсць разоў затрымліваўся за рулём у стане алкагольнага ап'янення, за што двойчы прыцягваўся да крымінальнай адказнасці.

Учора ўтрыманне алкаголю ў яго арганізме перавысіла дапушчальную мяжу прыкладна ў восем разоў.

**Аддзел інфармацыі.**

## На вачах рыбакоў з пнеўматычнай вінтоўкі забілі лебедзя

**ВІЛЕЙКА**

Гэта адбылося пасля абеду 5 красавіка. На канале Вілейска-Мінскай воднай сістэмы ля вёскі Беражок сядзелі рыбакі.

Пад'ехала аўтамашына, спынілася непадалёку. З яе выйшлі людзі. Неўзабаве рыбакі пачулі гукі, падобныя на стрэлы. Убачылі, што пасля першага стрэлу лебедзь адляцеў, але другім стрэлам яго забілі.

Рыбакі падбеглі да машыны. Яна ўжо ад'язджала, але паспелі сфатаграфаваць нумары.

Пра здарэнне паведамілі ў міліцыю. На месца выязджалі супрацоўнікі Вілейскага РАУС і Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Устанавілі, што забілі лебедзя з пнеўматычнай зброі.

Пазней па нумарах знайшлі гэту машыну. У ёй была пнеўматычная вінтоўка, якую забралі на экспертызу.

Калі тая пацвердзіць, што стралялі з гэтай вінтоўкі, то вінаватага прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці за незаконнае паляванне. За гэта ён можа быць пакараны штрафам да 50 базавых велічынь. А яшчэ павінны будзе кампенсаваць прычыненую навакольнаму асяроддзю шкоду ў шэсць мільёнаў 300 тысяч рублёў.

Пра ўсё гэта расказаў начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Валеры Кляноўскі**.

**Аддзел інфармацыі.**

# літпарад Павілля




# Валожыншчына літаратурная: учора і сёння

### Учора

• Літаратурнае жыццё на Валожыншчыне бярэ пачатак ад 16 стагоддзя, калі ў вёсцы Лоск магнат Ян Кішка заснаваў друкарню, ідэйным кіраўніком якой стаў асветнік **Сымон Будны**.

• Ад 1840 года ў маёнтку Люцінка (сёння вёска Малая Люцінка) 44 гады жыў і пісаў свае творы паэт, літаратар, драматург **Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч**.

• А вось яшчэ цікавыя асобы: ураджэнцы мястэчка Ракаў **Мар'ян Здзяхоўскі** (1861-1938) – літаратуразнавец, філосаф, рэктар універсітэта Стэфана Баторыя; і пісьменнік, перакладчык, літаратуразнавец **Уры Фінкель** (1896 – 1957).

• У канцы 19 – пачатку 20 стагоддзя на ніве беларускай літаратуры працавалі валожынцы **Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі**, больш вядомы як паэт Стары Улас (1865-1939), празаік **Ядвігін Ш.** (сапр. Антон Лявіцкі, 1869-1922).

• З Вішневам звязанае імя беларускай паэткі, аўтара ўсім вядомага верша "Люблю наш край..." **Канстанцыі Буйло** (1893 – 1986).

• Дзякуючы яшчэ аднаму слаўнаму сыну Валожыншчыны мы можам чытаць па-беларуску паэмы Адама Міцкевіча, польскамоўныя творы Дуніна-Марцінкевіча, Юзафа Крашэўскага, творы Пруса, Лермантава, Пушкіна і г. д. Гаворка ідзе пра паэта і перакладчыка **Пятра Бітэля** (1912 – 1991).

• Літаратурную справу землякоў працягваў паэт **Хведар Чэрня** (1939 – 1983).

### Сёння

• Выхадцы з Валожынскага краю дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва **Ганна Запартыка**, загадчыца аддзела выданняў і тэксталогіі Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Купалы і Я. Коласа НАН Беларусі **Тэрэза Голуб**, вядучы навуковы супрацоўнік аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры названага інстытута **Яўген Гарадніцкі** ў навуковых працах асвятляюць пытанні беларускай літаратуры.

• Прафесар **Вячаслаў Рагойша**, ураджэнец Ракава, – доктар філалагічных навук, акадэмік, навуковец, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, па кнігах якога вучылася не адно пакаленне студэнтаў-філолагаў.

• **Язэп Янушкевіч**, таксама народжаны ў Ракаве, – літаратуразнавец, архівіст, пісьменнік, Лаўрэат прэміі імя Льва Сапегі (Варшава, 2007) – даследуе гісторыю беларускай літаратуры і культуры 19-20 стагоддзяў, беларуска-польскія гісторыка-літаратурныя сувязі і культурныя ўзаемадзеянні 19 – пачатку 20 стагоддзя, жыццё і творчасць дзеячаў беларускай літаратуры і культуры.

• **Віктар Шніп**, маленькая радзіма якога – вёска Пугачы, – член саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт, пісьменнік, галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура".

• Больш чым два дзесяцігоддзі ў Валожыне, на базе раённага Цэнтра культуры, дзейнічае народнае літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Рунь", якім кіруе член Саюза пісьменнікаў Беларусі **Валянціна Гіруць-Русакевіч**. У склад аб'яднання ўваходзяць больш за 30 чалавек.

• Штогод "Рунь" праводзіць раённы конкурс юных талентаў Валожыншчыны "Маладыя галасы", тэмы іх асноўных намінацый – любоў да свайго краю, радзімай прыроды, мовы, шанаванне творчай спадчыны.

• На рахунку народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Рунь" калектыўныя зборнікі "Зямлі маёй і землякам"(2005), "Нашчадкі" (2009), "Маладыя галасы Валожыншчыны" (2012), "Помнім і жывём"(2015), асабістыя кнігі паэзіі рунеўцаў, большасць з якіх рэдагавала і ўкладала Валянціна Гіруць-Русакевіч.

• Актыўны ўдзел у сучасным літаратурным жыцці прымаюць як члены Саюза пісьменнікаў Беларусі **Марыя Шакун**, **Яўген Зялкоўскі**, **Аляксандр Грынкін**, **Міхась Курыла**, які доўгі час быў метадыстам "Руні", так і маладыя валожынцы **Міхась Бацян**, **Юлія Арцюкевіч**, **Крысціна Гарвер**, **Аксана Мітрошчанкава**, **Таццяна Косік** і інш.

• Патрэбы чытачоў Валожыншчыны задавальняе 18 бібліятэк.



### Віктар Шніп

Нарадзіўся ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна 26 сакавіка 1960 года. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1978). Сем гадоў быў беспрацоўным, перыядычна падпрацоўваючы грузчыкам на лікёра-гарэлачным заводзе "Крышталь", літкансультантам у часопісах "Нёман" і ў газеце "Вячэрні Мінск", часам жыў на ганарары.

У 1987 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы Літаратурнага інстытута імя Горкага ў Маскве. Працаваў старшым рэдактарам аддзела культуры ў часопісе "Беларусь" (1987 – 1991), у газетах "Наша слова" (адказны сакратар, 1991 – 1995) і "Літаратура і мастацтва" (1995 – 2003). У 2004 – 2008 гадах – намеснік галоўнага рэдактара, а з 2008 года – галоўны рэдактар у выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Дэбютаваў вершамі 17 жніўня 1977 года (газета "Чырвоная змена"). Аўтар кніг паэзіі і для дзяцей.

У канцы 1980-х – пачатку 1990-х пісаў тэксты для рок-гуртоў, бардаў, эстрадных выканаўцаў.

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі (з 1984).

Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага Савета Міністраў Грузіі (1987) за зборнік "Гронка святла", лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у галіне "Мастацкая літаратура" (2008) за кнігу "Страла кахання, любові крыж".

Там, дзе бацькоўскія хаціны, там Радзіма
І я другой Радзімы не хачу зусім.
І ўжо са мной цяпер заўжды перад вачыма
Маленькі чорна-белы здымак, на якім
На лаўцы восенню ля хаты ўсёй сям'ёю,
На сотках бульбу выбраўшы, сядзім,
І павуцінка з павучком па-над зямлёю
Праз нашае жыццё нябачная нікім
Ляціць, як плача, ведаючы ўсё ад Бога,
Што ёсць, што будзе, што было і мне ў жыцці
Больш не паўторыцца, і зарасце дарога
Да адзінокай хаты, згубіцца ў лісці
З бяроз і клёна, што даўно растуць ля плоту,
Што гаспадаркі ўжо не зберагае тут,
А толькі сцерагае ў двары траву й самоту,
Ад ветру рыпучы, нібыта ад пакут.
Сяджу на лаўцы, нібы на падсуднай лаве,
І на сябе за ўсіх і ўсё бяру віну.
І хату нашу, каб прадаць я маю права,
Ды не прадам, бо ведаю яе цану...

***

На крыжах залатых не трымаецца неба,
Бо яно на драўляных магільных крыжах,
А крыжы, урастаючы ў родную глебу,
На зямлі нас трымаюць, паказваюць шлях
У бязмежнае неба, дзе продкавы душы
І для нас шчэ нявечных шукаюць спакой.
Нам спакою не трэба ні ў спёку, ні ў сцюжу,
Бо з нас кожны разумны і кожны герой,
І, цалуючы ў Храмах, крыжы і іконы
Нехта думае, што ён ужо без грахоў
І цяпер па-над ім будзе вечна карона
І анёлак ахоўнік, і Бога Любоў.
Але ўсё ж толькі сонца лагодныя промні,
Як салому, нам сыпле на слізкі наш шлях,
І памерлыя продкі, якіх мы шчэ помнім,
На крыжах нас трымаюць, нібы на руках...

***

Я цябе намалюю на небе начным
Сярод Млечнага Шляху, які нібы дым
Залаты, як і ты для мяне залатая.

Ты даўно ўжо, напэўна, забыла мяне
І таму, калі ўбачыш на небе ў вакне
Свой партрэт, то ўсміхніся яму, хай лунае

Над зямлёй, дзе ўжо больш не сустрэнемся мы,
Бо між намі гады і бясконцасць зімы,
Як між намі ад моста згарэлага дым

І хай бачаць усе, што я помню цябе
І жыву, як палонны, у вечнай журбе...
Я цябе намалюю на небе начным...

## літПАРАДА ад Віктара Шніпа

Што пажадаць маладым літаратарам? Каб былі маладымі. Не забываліся, што мы, беларусы, маем сваю краіну, гісторыю, культуру. Мы еўрапейцы.

Пішучы, каб не забываліся, што гэта будзе надрукаванае і прачытанае, таму трэба з адказнасцю адносіцца да кожнага свайго слова. Не бойцеся быць наіўнымі, вельмі шчырымі. Кожны дзень глядзіце на свет, як упершыню. Адкрывайце прыгажосць і дзяліцеся сваімі адкрыццямі праз творы. Смялей звяртайцеся за парадамі да старэйшых літаратараў. Вучыцеся ў класікаў. Паболей чытаце сучаснай літаратуры.

Наведвайце літаб'яднанні. Не адмаўляйцеся ад выступленняў. Будзьце ўпэўненымі ў сабе, але заўсёды думайце, як вашы словы могуць адгукнуцца ў душах людскіх. Словам, тварыце. дзе б ні былі, ніколі не забывайцеся пра тыя мясціны, дзе вы нарадзіліся.



### Міхась Бацян

Нарадзіўся ў 1989 годзе ў Валожыне Мінскай вобласці. Сям'я жыла ў вёсцы Сакаўшчына Валожынскага раёна. Вучыўся ў Сакаўшчынскай сярэдняй школе, потым у гімназіі №1 Валожына. Паралельна з асноўнай вучобай атрымаў музычную адукацыю па класе баяна.

Пасля школы скончыў юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. У час вучобы ўдзельнічаў у вакальна-інструментальных ансамблях. Іграе на шматлікіх музычных інструментах. Піша як вершы, так і песні. Лідар гурта "Р'э Мажор".

Працуе галоўным спецыялістам аддзела работы з VIP-кліентамі ў Мінску.

**Мне даспадобы слова "незалежнасць"**

Хто ты такі і дзе твой будзе дом –
Усё ў жыцці ад выбару залежыць.
Я выбраў у сваім – не біць чалом,
Мне даспадобы слова "незалежнасць".
Лепш выберу духмяную траву,
Чым поле, што запэцкана крывёю,
Я выбіраю веру і жыву
З надзеяй на людское і жывое.
Я выбіраю сонца, не агонь,
Я не хачу ніколі бачыць хмары.
Я выберу ўзяць неба на далонь,
А не збіваць яшчэ малыя мары.
Я выбіраю радасць, а не боль,
Заўсёды рэфарматар, не мяцежнік.
Сапраўдны я заўжды жыве са мной,
Які і ў сваіх думках незалежны.

**Прысвячэнне В. Грыцэнцы**

Муза мая, паважаная краля,
Сэрца маё зашчаміць вы змаглі.
Як на гітары на ім вы зайгралі,
Граюць лады: трэці, першы, другі..

Бачу я вас у сваіх летуценнях,
У кожнай сустрэчнай шукаю ваш твар,
Вы даравалі мне столькі памкненняў,
Колькі чарнілаў не хопіць, на жаль.

Вам, прыгажуня, свой верш прысвячаю,
Побач ля сэрца трымайце яго.
Вашае сэрца каханне надбае,
А дзеля вас не шкада мне свайго.

**Аблокі**

Сівыя аблокі ўгледзеў высока.
Я бачу, я чую, як пахнуць аблокі,
Я іх адчуваю ўнутраным вухам.
Не верыш? Уважліва неба паслухай.

Ляцяць і прыемным мне водарам веюць,
Паўзуць праз узгоркі, палеткі, алеі.
Трымае іх смак мой язык з асалодай –
Шматочак жыцця і кавалак прыроды.

Кавалак цябе над празорлівай рэчкай
І крышку травы пад зялёнай парэчкай.
Нясуць яны водар спакойны, высокі,
І шэпчуць прыемна на вуха аблокі

Пра тое, як недзе блукае завея
Пакрыўджаных думак, вялікіх ідэяў,
Людзей геніяльных і мараў глыбокіх...
Сказалі і далей памкнулі аблокі.

# "Хай экспедыцыя прырастае і вашымі ўнукамі"

## У Вілейцы прайшла міжнародная канферэнцыя па Павіллі

ВІЛЕЙКА

**– Як, сёлета пойдзеш у экспедыцыю? – Так, хоць на пару дзён пастараюся.**

Такія дыялогі можна было пачуць у кулуарах беларуска-літоўскай канферэнцыі "Вілія-Neris: досвед трансгранічнага супрацоўніцтва". Прайшла яна 9 красавіка ў Вілейскім райвыканкаме.

Сабраліся тут беларускія і літоўскія навукоўцы, удзельнікі экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча", краязнаўцы, настаўнікі, вучні і іншыя зацікаўленыя асобы.

Пабачылі фотаздымкі з экспедыцыі з фондаў краязнаўчага музея, пагарталі выданні на выставе, падрыхтаванай мясцовай бібліятэкай. Найбольшую цікавасць выклікала факсімільнае выданне кнігі "Вілія і яе берагі". Якраз яна стала вынікам падарожжа 1857 года краязнаўцы і археолага графа **Канстанціна Тышкевіча**. А праз 150 год арганізавалі першую экспедыцыю "Шляхам Тышкевіча".



Прэзідэнт Саюза падарожнікаў Літвы Альгімантас Юцэвічус уручае Міхаілу Петуху чатыры тамы кнігі Вікінтаса Вайткявічуса "Neris. Экспедыцыя 2007 года".

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

### Старт на наступную экспедыцыю

Прывітала ўдзельнікаў старшыня раённага Савета дэпутатаў **Наталля Радзевіч**. Адзначыла, што гэта мерапрыемства праходзіць па ініцыятыве вілейскіх краязнаўцаў, у прыватнасці, Міхаіла Петуха:

– Ён працягвае справу, пачатую **Яўгенам Ігнатовічам**, светлай памяці **Анатолем Рогачам** і **Віталём Кастэнкам**. На працягу шэрагу год арганізуе экспедыцыі, удзельнікамі якіх многія з вас з'яўляюцца, а дзеці, можа, будуць удзельнічаць у будучым. Сёння нас усіх, у тым ліку прадстаўнікоў Літвы, аб'яднала наша рака.

Прэзідэнт Саюза падарожнікаў Літвы **Альгімантас Юцэвічус** перадаў прывітанні і найлепшыя пажаданні ад удзельнікаў першай экспедыцыі і дадаў:

– Думаю, што сёння даецца старт, каб на наступны год паўтарыць экспедыцыю, бо споўніцца 160 год падарожжа па Віліі Канстанціна Тышкевіча.

Падарыў ён нязменнаму кіраўніку экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча" Міхаілу Петуху чатыры тамы кнігі прафесара Клайпедскага універсітэта **Вікінтаса Вайткявічуса** "Neris. Экспедыцыя 2007 года".

Вікінтас расказаў пра працу над кнігай, якая расцягнулася на некалькі год:

– Калі кніга пачала выходзіць, я сам і чытачы яшчэ не разумелі яе каштоўнасці. Трэба час, каб зразумець наш уклад у гісторыю даследавання ракі – ён вялікі.

Каардынатар штогадовай экспедыцыі **Дзмітры Ведзень** падзяліўся:

– Каўнас забяспечваецца вадой з Віліі, і многія мінчане атрымліваюць ваду адсюль. Так што, можна сказаць, што Вілія ў табе і ўва мне. Вілія сапраўды аб'ядноўвае не толькі метафізічна, але і наўпрост.

Падагульніў ён, што самае цікавае ў экспедыцыі – людзі. За ўсе гады ў ёй удзельнічала каля 700 чалавек, самаму юнаму было два гады, самаму пажылому – 77 год. І сем'і ствараюцца.

**– Столькі цікавых фактаў прыводзілі пра экспедыцыю, а для вас які галоўны яе вынік?** – пытаю ў яго.

– Асноўнае, што яна працягваецца і да яе далучаюцца людзі. Ім гэта цікава.

**– Чым?**

– Што гэта і адпачынак, і нешта новае можна даведацца. Многія бывалыя вандроўнікі па Віліі, калі яны ўдзельнічаюць у нашай экспедыцыі, кажуць: "Ух ты, я столькі год хадзіў па гэтай Віліі, але ўпершыню даведаўся, што тут ёсць тое, а калі падняцца на гэту горку, то ўбачыш іншую цікавостку". Людзі проста гэтага не ведаюць. Сёлета плануецца працяг экспедыцыі і падрыхтоўка да 2017 года. Бо на наступны год збіраемся паўтарыць экспедыцыю Тышкевіча ад вытокаў да вусця. Фарват яшчэ будзем вызначаць.

Краязнаўца з Мінска **Іван Клімук** тры апошнія гады ўдзельнічае ў экспедыцыі. Думае і надалей падарожнічаць па Віліі:

– Бо вельмі добрыя ўражанні застаюцца. Такія адкрытыя цудоўныя людзі – і ў экспедыцыі, і якія сустракаюцца па маршруце. Шмат чаго новага для сябе з кожнай экспедыцыі даведваешся: гісторыі, мясцовыя паданні.

Дацэнт Віленскага ўніверсітэта **Філамена Кавалютэ** параўнала Вілію з жывой істотай. Дзе яна віляе бы няўрымслівае і імклівае дзіця, дзе бы сталее, мяняе характар, становіцца "дарослай" і ўтульнай.

**– Па беларускім боку як плывеш – як музей. Гэта архаіка. Так цікава! Трэба абавязкова паглядзець гэтыя вёскі, – кажа.**

Прыгадала яна пра экалагічныя праблемы Віліі:

– Што нас хвалюе – атамная электрастанцыя ў Беларусі, адкуль яна будзе браць ваду для ахаладжвання працэсу. АЭС у Ігналіне стаяла каля возера Друкшяй*, самага вялікага возера ў Літве. Паступала цёплая вада, і тэмпература ў ім у сярэднім павышалася да трох градусаў.

### "Фільм – гэта ўжо гісторыя, але яна працягваецца"

Удзельнікі канферэнцыі перанесліся на дзевяць год назад – паглядзелі фільм **Вітаўтаса Дамашэвічуса** "Вілія і яе берагі", што расказвае аб экспедыцыі 2007 года.

На канферэнцыі ўдзельнікі выступалі з рознымі дакладамі, датычнымі Павілля: знаёмілі з даследаваннямі вытокаў Віліі і вілейскага строю, расказвалі пра развіццё турызму і культурныя адрозненні жыхароў узбярэжжа Віліі.

Шмат цікавых аповедаў людзей на гэту тэму запісаў у часе экспедыцый навукоўца **Юры Унуковіч**. Вось запіс з Астравеччыны:

"Ну тут яны (мясцовыя літоўцы) ужо знаюць, такія і на нас ужо пахожыя яны. Культура, усё. А там ў Вільнюсе, канешна..."

**Міхаіл Міхалевіч** з Вілейкі параўнаў, якая рыба вадзілася ў Віліі ў часы Тышкевіча і цяпер. Краязнаўцы са Смаргоншчыны **Уладзімір Прыхач** і **Алег Мізула** расказалі адпаведна пра памяткі Першай сусветнай і пра паганскія капішчы над Віліяй.

Завяршылася канферэнцыя па-сяброўску – пад песні пад гітару. Гучаў і гімн экспедыцыі "Пад Белай гарой" у выкананні Алега Мізулы. А фота на памяць было са сцягам – яшчэ з той, першай экспедыцыі 2007 года.

Рэжысёр Вітаўтас Дамашэвічус сказаў:

**– Фільм "Вілія і яе берагі" – гэта ўжо гісторыя, але яна працягваецца. Ведаю, што на наступнай экспедыцыі са мной праплывуць пяць унукаў. Дай Бог, хай яна прырастае і вашымі ўнукамі.**



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

* Даведка РГ. Друкшяй (Дрысвяты) – возера на мяжы Літвы і Беларусі. Да закрыцця Ігналінскай АЭС з'яўлялася крыніцай вады для станцыі.

## Мінпрацы патлумачыла, каму даўжэй за ўсіх прыйдзецца чакаць выхаду на пенсію

Рашэнне аб павышэнні пенсійнага ўзросту прынятае 11 красавіка. Ад 1 студзеня 2017 года пенсійны ўзрост паступова – штогод на 6 месяцаў – будзе павялічвацца для мужчын да 63 гадоў, для жанчын – да 58 гадоў.

За апошні год колькасць жыхароў Беларусі, якія дасягнулі ўзросту 55/60 гадоў, павялічылася больш чым на 40 тысяч. Цяпер у нашай краіне 2 мільёны 354 тысячы пенсіянераў.

– Варта звярнуць увагу, што ўзрост выхаду на пенсію будзе залежаць не толькі ад даты нараджэння, але і ад даты звароту за прызначэннем пенсіі, – падкрэслівае намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны **Валерый Кавалькоў** у размове з БелТА. – Калі жанчына, якая нарадзілася ў другім паўгоддзі 1962 года (напрыклад, у снежні), звернецца за прызначэннем пенсіі не ў першыя ўзнікнення права на пенсію (у снежні 2018 года), а пазней, скажам, у лютым 2019 года, то права на пенсію ёй можа быць дадзена не раней дасягнення пенсійнага ўзросту, устаноўленага для жанчын у 2019 годзе (56 гадоў 6 месяцаў), гэта значыць не раней за чэрвень 2019 года.

**Паводле tut.by.**

### Калі беларусы будуць выходзіць на пенсію ў залежнасці ад даты нараджэння

| дата нараджэння | | час выхаду на пенсію | пенсійны ўзрост, гады | |
|---|---|---|---|---|
| **мужчыны** | **жанчыны** | **муж. і жан.** | **муж.** | **жан.** |
| ад 1 студзеня да 30 чэрвеня 1957 года | ад 1 студзеня да 30 чэрвеня 1962 года | ад 1 ліпеня да 31 снежня 2017 года | 60,5 | 55,5 |
| ад 1 ліпеня да 31 снежня 1957 года | ад 1 ліпеня да 31 снежня 1962 года | ад 1 ліпеня да 31 снежня 2018 года | 61 | 56 |
| ад 1 студзеня да 30 чэрвеня 1958 года | ад 1 студзеня да 30 чэрвеня 1963 года | ад 1 ліпеня да 31 снежня 2019 года | 61,5 | 56,5 |
| ад 1 ліпеня да 31 снежня 1958 года | ад 1 ліпеня да 31 снежня 1963 года | ад 1 ліпеня да 31 снежня 2020 года | 62 | 57 |
| ад 1 студзеня да 30 чэрвеня 1959 года | ад 1 студзеня да 30 чэрвеня 1964 года | ад 1 ліпеня да 31 снежня 2021 года | 62,5 | 57,5 |
| ад 1 ліпеня да 31 снежня 1959 года і больш маладыя | ад 1 ліпеня да 31 снежня 1964 года і больш маладыя | ад 1 ліпеня 2022 | 63 | 58 |

## 16 красавіка – гадавіна памяці Пятра Цыгалкі

**Роўна год таму нечакана для блізкіх і знаёмых пайшоў з жыцця Пётр Міхайлавіч Цыгалка.**



Ён быў чалавекам невычэрпнай энергіі, гатовы прыйсці на дапамогу ўсім, каму яна была патрэбная; цікавіўся гісторыяй свайго краю і людзьмі, дапамагаў адшукаць карані сваім аднавяскоўцам.

Пры дапамозе Пятра Міхайлавіча на старонках "Рэгіянальнай газеты" чытачы маглі пазнаёміцца са шматлікімі публікацыямі пра гісторыю яго роднай Мільчы, навакольных вёсак, пра Даўгінава падчас Галакосту.

У планах была серыя публікацый пра нашых землякоў у Сібіры, продкі якіх выехалі больш за сто гадоў таму ў пошуках лепшай долі або кавалка хлеба. Кур'яновічы, Цыгалкі, Судніковічы, Бурсевічы, Аксючыцы, Пачарнеі, Асаёнкі, Станькі, Паўтаракі – прозвішчы, якія сустракаюцца ля Мільчы і ў сібірскіх вёсках Паўлаўка, Калінаўка, Андрэеўка, Аляксандраўка, Мугун Цюменскай вобласці... Ён знайшоў сібіракоў, якія прасілі Пятра Цыгалку весці далейшыя пошукі, бо заўсёды адчувалі сябе беларусамі, але праз час сувязь з радзімай пачынала губляцца. І новай ніткачкай, за якую яны маглі ўхапіцца, была перапіска і штодзённыя кантакты ў інтэрнэце праз Пятра Міхайлавіча.

На вялікі жаль, гэтую работу так, як яе рабіў Пётр Цыгалка, ніхто ўжо не зробіць.

Мы будзем заўжды ўдзячныя Пятру Міхайлавічу за яго душэўнасць, клопат пра кожнага, высокамаральныя чалавечыя якасці і настойлівасць у дасягненні пастаўленых ім высакародных мэт. Нам яго не хапае.

**Калектыў "РГ".**

# Андрэй Дударчык – новы дырэктар кінатэатра "Мір"

ВІЛЕЙКА

**Андрэй Дударчык добра знаёмы з чытачамі "РГ".**



Архіў "РГ".

**Новым дырэктарам вілейскага кінатэатра "Мір" стаў Андрэй Дударчык.**

Менавіта ён звычайна распавядаў пра большасць крымінальных здарэнняў у Вілейцы, калі працаваў начальнікам міліцыі грамадскай бяспекі Вілейскага РАУС.

Сёлета, у сувязі з выхадам на пенсію, Андрэй Мікалаевіч кардынальна змяніў вектар сваёй дзейнасці. 1 красавіка ён заняў пасаду начальніка аддзела кінавідэаабслугоўвання насельніцтва Вілейскага раёна.

Ужо тыдзень Андрэй Дударчык працуе на новым месцы. Мы пацікавіліся, як ён сябе адчувае ў новай ролі:

– У мяне ўсё добра. Прывыкаю да новай пасады і новага калектыву. Працуем па старым плане, але з большай актыўнасцю. Будзем імкнуцца вярнуць гледача ў кінатэатр. Ён у нас прыгожы, адрамантаваны, з усімі выгодамі.

**– Ці цікавіліся вы кіно раней?**

– Кіно – маё жыццё. Справа ў тым, што ў старэйшых класах перада мной была дылема: ці паступаць у тэатральны інстытут, ці ісці вучыцца на ваеннага. Прагматызм перамог, і я пайшоў у ваенныя. У той час гэта прафесія была прэстыжнай і высокааплатнай. На ваенных быў вялікі попыт. Цяпер я і не ведаю, што выбраў бы, калі б зноў давялося выбіраць.

**– Самі ці часта хадзілі ў кінатэатр?**

– Раней, яшчэ ў стары кінатэатр, часта хадзіў. З фільмамі не раставаўся ніколі, бо з'явіўся інтэрнэт, а з ім – магчымасць глядзець любыя фільмы. Але шкадую пра тое, што апошнім часам не хадзіў у кінатэатр. Цяпер буду наверстваць. Прытым, што цяпер жа фільмы ў фармаце HD і 3D. Так, вада не ліецца і крэслы не варушацца, але ўсё астатняе ў нас ёсць.

**– Ёсць думкі, што можна новае зрабіць у кінатэатры?**

– Думак шмат: можна наладзіць паэтычныя вечарыны, праводзіць дыскусійны клуб. Тут гэтак жа, як і з аўтамабілем. Зразумець, добры ён ці не, можна толькі пасля таго, як яго зробяць і пусцяць у ход. Будзем спрабаваць і эксперыментаваць.

**– Вам асабіста якое кіно найбольш падабаецца?**

– У залежнасці ад настрою. Гумар і сатыра на першым месцы, баевікоў хапае і ў жыцці. Не люблю любоўную лірыку, калі яна зробленая проста і прымітыўна. Вось калі там ёсць глыбіня, калі яна кранае струны душы, тады так, чапляе і захапляе. Люблю дынамічныя фільмы. Але я не падзяляю фільмы на добрыя і дрэнныя. Я дзялю іх на тыя, што мне падабаюцца і не падабаюцца. Бывае, кажуць, што шыкоўны фільм, а табе ён здаецца звычайным. Ці наадварот, сам рэкламуеш, а табе потым кажуць: "Мы чакалі большага".

Новая прафесія Андрэю Мікалаевічу падабаецца.

– Прыемна, што мяне заўважылі і запрасілі на гэту пасаду. Цешыць, што цяпер у мяне стваральная прафесія. Я працую для таго, каб у людзей быў добры настрой і пазітыў у жыцці.

**Настасся РОЎДА.**

## У Ілью прыехалі з Белдзяржфілармоніі

ВІЛЕЙКА

У рамках Года культуры 11 красавіка Ільянскую сярэднюю школу імя Грымаця наведалі прадстаўнікі Беларускай дзяржаўнай філармоніі – тэатр "Слова" Зінаіды Феакціставай.

**Адбыліся два мерапрыемствы: адно – для пачаткоўцаў, другое – для вучняў 5-11 класаў.**

– Хлопчыкі, дзяўчынкі, адкажыце мне, ці прыляцелі ўжо буслы? – запыталася ў сваіх маленькіх гледачоў артыстка Белдзяржфілармоніі, уладальніца шэрагу дзяржаўных узнагарод, у тым ліку медаля Францішка Скарыны, **Зінаіда Феакцістава**.

– Прыляцелі! Прыляцелі! – наперабой адказвалі маленькія ільянцы. І адразу стала зразумела: імпрэза атрымаецца цёплай і шчырай.

Мерапрыемства пачалося гутаркай пра родны край. Потым Зінаіда Феакцістава чытала вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Пімена Панчанкі. Аздобіла выступленні Зінаіды Уладзіміраўны цудоўная музыка ў выкананні піяністкі **Алены Каладзяжнай.**

Пасля гледачам была прапанаваная гульня, якая заключалася ў перакладзе слоў з рускай мовы на беларускую. Безумоўна, вучні беларускамоўнай вясковай школы з лёгкасцю справіліся з заданнямі, чым здзівілі і парадавалі нашых гасцей. Як аказалася, у большасці сталічных школ вучні не могуць пахваліцца такім добрым веданнем мовы.

Вельмі зацікавіў вучняў пачатковай школы **Сяргей Долгушаў**, спявак, збіральнік фальклору, лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў. Дзеці не толькі паслухалі, як выдатна ён спявае пад уласны гітарны акампанемент. Дзякуючы Сяргею яны ўпершыню ўбачылі і пачулі беларускія народныя інструменты : дуду, акарыну, сапелку, жалейку.

Школьнікам 5-11 класаў была прадстаўлена іншая, больш сур'ёзная праграма пад назвай "Калі слову, то й сэрцу баліць". Тут Зінаіда Феакцістава згадала гады свайго студэнцтва, прачытала вершы Анэлі Тулупавай, Еўдакіі Лось, Анатоля Грачанікава, Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча. Тэмы вайны, Чарнобыля чаргаваліся са светлымі радкамі пра дабрыню, каханне, сяброўства.

А вясёлая беларуская народная песня "Талака", якую старшакласнікі весела праспявалі разам з Сяргеем Долгушавым, усім узняла настрой у пахмурны вясновы дзень.

**Аксана ЯРАШОНАК, педагог-арганізатар Ільянскай сярэдняй школы імя А. А. Грымаця.**

ДА 30-ГОДДЗЯ АВАРЫІ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС

# Як будавалі дамы для ахвяр з Чарнобыля

## Архітэктар Анатоль Капцюг прыгадвае, як удзельнічаў у экстрэмальным праектаванні дамоў для адсяленцаў з забруджанай тэрыторыі

**Спаўняецца трыццаць год з дня аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. За гэты час было многа напісана і надрукавана аб гераічнай працы пажарных, лётчыкаў, супрацоўнікаў міліцыі. Створаны фільмы, напісаныя вершы і нават паэмы.**



Фота Кірыла СУДНІКОВІЧА.

**Гомель, верасень 1986 года. Група праекціроўшчыкаў (злева направа): Іван Лобань – інжынер-дарожнік, геадэзіст; Людміла Вільчко – галоўны архітэктар праектаў; Уладзімір Бабкоў – вядучы архітэктар; Анатоль Капцюг – кіраўнік групы архітэктараў; Сяргей Трацццяк – вядучы інжынер-канструктар; Барыс Альховік – кіроўца. Здымаў Пётр Цвік – вядучы архітэктар, па сумяшчэнні – галоўны інжынер праектаў.**

Намнога менш увагі выпала на долю будаўнікоў, нягледзячы на тое, што задачы ім давялося вырашаць важныя і ў не вельмі спрыяльных умовах. Але яны займаліся сваёй звычайнай будзённай працай, у якой мала месца для гераізму. Асноўнай іх задачай было забяспечыць жыллём да наступлення халадоў вымушаных перасяленцаў пасля аварыі. Цяжка паверыць, але будаўнікі справіліся.

Кожная будоўля пачынаецца з узгодненага праекта і праектнай дакументацыі. Усім абласным праектным інстытутам рэспублікі ўрадам, арганізатарам і каардынатарам работ па ліквідацыі наступстваў, былі вызначаныя раёны для праектавання пасёлкаў для перасяленцаў.

Інстытуту "Гроднаграмадзянпраект", дзе мне давялося ў той час працаваць кіраўніком групы архітэктараў, былі выдзеленыя Хойніцкі, Калінкавіцкі, Лоеўскі і Рэчыцкі раёны Гомельскай вобласці. Ганаровая работа кіраўніцтвам інстытута была даручаная групе архітэктараў, якой я кіраваў. У групе працавалі два вядучыя архітэктары, якія раней займаліся праектаваннем сельскіх пасёлкаў і нават мелі медалі ВДНГ СССР за праекты. Думаю, гэта з'явілася асноўнай прычынай даверу.

У той адказны момант я знаходзіўся ў нашым рэгіёне ў чарговым адпачынку. Вяртаць на працу не сталі, бо ўжо накіравалі спецыялістаў, у тым ліку і з маёй групы, у раёны будучай будоўлі збіраць матэрыялы для праектаў, даследавання пляцовак пад забудову пасёлкаў аднакватэрных жылых дамоў. Пляцоўкі пад будаўніцтва выбіралі мясцовыя спецыялісты, з улікам існуючых інжынерных сетак і інфраструктуры. Таму новыя пасёлкі будавалі пры ўжо існуючых, як правіла, цэнтральных сядзібах гаспадарак.

### Усе пранікліся адказнасцю

Здараліся памылкі. Першы пасёлак на 200 аднакватэрных дамоў, пабудаваны па нашым праекце ў Дубровіцах Хойніцкага раёна, не засялілі, высветлілася, што тэрыторыя забруджаная. З пасёлкам на 100 дамоў у Крукавічах Калінкавіцкага раёна такіх праблем не было, былі іншыя, але дробныя.

Для прывязкі прымянялі беларускія тыпавыя праекты аднакватэрных жылых дамоў з цэглы, але большасць складалі расійскія шчытавыя дамы заводскага вырабу для леспрамгасаў з абкладкай цэглай. Камплектуючыя вырабы дамоў везлі чыгункай з Краснаярскага краю, Іркуцкай, Пермскай, Кіраўскай абласцей. З чыгуначных станцый на будоўлю вазілі аўтатранспартам і складалі на падрыхтаваных пляцоўках плошчай 2-3 гектары. Дамы з розных абласцей трохі адрозніваліся памерамі, але былі вельмі падобныя. Нярэдка, адбывалася блытаніна, з якой цяжка было хутка разабрацца.

**Будоўля была падобная на канвеер, толькі аб'екты працы – цагляныя жылыя дамы – заставаліся на месцы, а рухаліся з дома на дом брыгады будаўнікоў.**

Адначасова ў пасёлку будавалі дамоў дзесяць, нават больш. Першая брыгада рабіла падмурак і пераходзіла на наступны дом, за імі муляры ўзводзілі сцены, затым цесляры займаліся дахам, за імі электрыкі, сантэхнікі і гэтак далей. Адначасова пракладваліся электракабелі, водаправод, каналізацыя, сувязь, будаваліся гаспадарчыя пабудовы.

Па якасці работ пытанняў не было, усе пранікліся адказнасцю. І, на маю думку, пасылалі працаваць ў Гомельскую вобласць лепшых. Шчытавыя дамы збіралі падобным чынам. Тэрміны будаўніцтва былі неверагодна сціслыя. Не верылася, што так можна наладзіць працу ў складаных умовах.

Лета 1986 года было гарачае і даволі сухое. Зямля на будаўнічай пляцоўцы была разваропчаная і перамешаная вялікай колькасцю розных тэхнікі, якая адначасова працавала на будоўлі.

Перасохлы пясок ганяў вецер. Гэта марудзіла працу. Пясок ветрам заганяла пад павеці, абцягнутыя плёнкай, дзе харчаваліся будаўнікі, засыпала посуд.

### Як у дамы дадалі печы

Найбольш важныя і складаныя работа выконвалі будаўнікі з дасведам, камандзіраваныя з усіх абласцей рэспублікі, падсобныя і менш складаныя работы выконвалі салдаты тэрміновай службы будаўнічых войскаў. Спецыялістаў рэдкіх прафесій шукалі на месцы.

Перасяленцы найбольш сталага ўзросту, якія прыязджалі паглядзець на свае будучыя дамы, не маглі ўявіць жыццё без рускай печы, хаця ў дамах было ацяпленне вадзянымі катламі. Ім, безумоўна, не адмовілі. Мы хуценька ў праектах дачарцілі квадрацікі, што азначала печ, а майстра-печніка адшукалі толькі ў суседнім Бабруйскім раёне.

Майстар, дзед гадоў пад 90, хадзіць амаль што не мог, вядома, куды ён ужо пачаў збірацца, а тут такая важная і ганаровая задача. Дзед ажыў. Печы адначасова ва ўсіх дамах клалі салдаты-будаўнікі. Недзе знайшлі мяккае крэсла, пасадзілі на яго дзеда, прыставілі двух салдат, якія пераносілі яго ад дома да дома, дзе ён наглядаў і кіраваў іх працай.

**Анатоль КАПЦЮГ,**
**Вілейка.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

### 15 КРАСАВІКА

**75 гадоў** з дня нараджэння Вячаслава Дашкевіча (1941, в. Дзякшняны Маладзечанскага раёна), беларускага паэта.

### 16 КРАСАВІКА

**105 гадоў** з дня нараджэння (1911 – 1994) Зоі Коўш, беларускай грамадскай дзяячкі, юрыста, вязня ГУЛАГу. Нарадзілася ў сям'і святара Аляксандра Каўша. Скончыла Віленскую беларускую гімназію (1929), юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Уваходзіла ў Беларускі студэнцкі саюз. Падчас нямецкай акупацыі працавала юрысконсультам у Беларускім нацыянальным камітэце ў Вільні. Летам 1944 выехала ў Германію, жыла ў Берліне. У 1947 годзе арыштаваная савецкай дзяржбяспекай, знаходзілася пад следствам у Мінску. Асуджаная да 10 гадоў ППК. З савецкіх канцлагераў вярнулася ў другой палове 1950-х, жыла ў Вільні. У пачатку 1960-х выйшла замуж за былога палітвязня Кратовіча. Аўтар успамінаў.

### 18 КРАСАВІКА

**Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцін**

**135 гадоў** з дня нараджэння Янкі Журбы (сапр. Іван Якаўлевіч Івашын, 1881 – 1964), беларускага паэта

### 19 КРАСАВІКА

**135 гадоў** з дня нараджэння Валянціна Волкава (1881 – 1964), народнага мастака Беларусі.

**135 гадоў** з дня нараджэння Усевалада Ігнатоўскага (1881 – 1931), гісторыка, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, акадэміка, першага прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі.

**90 гадоў** з дня нараджэння Барыса Аракчэева (1926–2013), жывапісца, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**Сёлета** спаўняецца 135 гадоў з дня нараджэння Беркі Бермана (1881-1939), фоталетапісца Вілейшчыны. Меў у горадзе фотамайстэрню, аптэку, якія месціліся ў 47-м доме па вуліцы Пілсудскага (цяпер Савецкая, 33). У 1921 годзе арганізаваў драматычны гурток, які ставіў пастаноўкі, каб падтрымаць бедных дзяцей. Да 1925 года ён быў адзіным фатографам у Вілейцы. У 1930-м нават сфатаграфаваў прэзідэнта Рэчы Паспалітай Ігната Масціцкага, калі той прыехаў у Вілейку. У 1939 годзе арыштаваны, праз месяц пасля таго, як прыйшла савецкая ўлада, і асуджаны на восем гадоў выпраўленча-працоўнага лагера. Рэабілітаваны ў 1989 годзе.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## “Навошта мне іхнія сыры?!”

### Юрыст тлумачыць, калі можна замяняць заробак натураплатай

ВІЛЕЙКА

**Такі ліст адрасаваў нам жыхар Вілейшчыны (імя і прозвішча ёсць у рэдакцыі). “Мой сын працуе ў таварыстве “Сцешыцы”.**

З кожнага, хто працуе ў гаспадарцы, утрымалі з зарплаты па 250 тысяч рублёў за прадукцыю малочнага камбіната. Згоды на гэта не пыталіся.

У мяне ёсць у гаспадарцы карова. Навошта мне іхнія сыры, калі ў мяне ёсць свае?! Мне здаецца, што гэта самавольства”.

У кіраўніцтве таварыства нашай газеце сітуацыю вырашылі не каментаваць.

Дырэктар Вілейскага філіяла Маладзечанскага малочнага камбіната **Марына Вазняк** патлумачыла:

– У нас з кожным сельгаспрадпрыемствам раёна падпісаныя дагаворы на пастаўку малочнай прадукцыі. Пішуць заяўку, што хочуць набыць тую ці іншую прадукцыю у лік сыравіны, што пастаўляецца на завод. Мы абавязаныя сельгаспрадпрыемствам адпусціць яе. Як у гаспадарках распараджаюцца малочнай прадукцыяй, гэта ўжо іх справа.

Па каментар таксама звярнуліся да галоўнага прававога інспектара працы Мінскага абкама прафсаюза работнікаў АПК **Кірыла Азаранкі**:

– У артыкуле 74 Працоўнага кодэкса Беларусі напісана: “Заработная плата выплачваецца ў грашовых адзінках Рэспублікі Беларусь. Са згоды работніка дапускаецца замена грашовай аплаты цалкам або часткова натуральнай аплатай. Натуральная аплата ўзамен грашовай павінна быць прыдатная для асабістага спажывання і выгадная для работніка і яго сям'і”.

**Самая галоўная ўмова: калі наймальнік атрымаў згоду працаўніка, то гэтыя дзеянні лічацца законнымі. Калі наймальнік не атрымаў згоду, прычым з кожнага, і фактычна выдаў натуральнай аплатай частку зарплаты, то яго дзеянні супярэчаць артыкулу 74 Працоўнага кодэкса.**

**– Ці паступаюць падобныя звароты з Міншчыны?**

– Так. Да пісьмовых зваротаў не даходзіла, але людзі тэлефануюць. Ёсць выпадкі, што працаўнікі нязгодныя, што ім навязваюць натураплату. Звяртаемся да наймальнікаў, на якіх скардзяцца, тлумачым заканадаўства, і тыя вымушаны ісці насустрач людзям.

Калі членам прафсаюзаў АПК патрэбныя кансультацыі па падобнай праблеме, то могуць звяртацца да Кірыла Азаранкі па нумары ў Мінску **(8017) 327-26-95**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Гімназіст з Мядзела прадставіць Беларусь у Стакгольме

МЯДЗЕЛ

У Мінску 22 сакавіка адбыўся фінал рэспубліканскага этапу Стакгольмскага юніёрскага воднага конкурсу. Яго пераможцам стаў адзінаццацікласнік гімназіі-інтэрната Мядзела **Дзяніс Марач**. Больш з нашага рэгіёна ў прызёры ніхто не трапіў.

Дзяніс будзе прадстаўляць Беларусь у Стакгольме на міжнародным фінале. Яго даследчая праца называецца “Комплексная экалагічная ацэнка стану рэк, прыгодных для нерасту прахадных ласасёвых рыб у Беларусі”. Расказаў вучань, што праца напісана па выніках даследаванняў у Астравецкім раёне.



Фота eco.unibel.by.

**Дзяніс Марач з узнагародай.**

Летась Дзяніс таксама ўдзельнічаў у фінале рэспубліканскага этапу Стакгольмскага юніёрскага воднага конкурсу і заняў тады пятае месца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

У ДАРОЗЕ



**Напамінам пра тое, што ў Смаргоні была мядзведжая акадэмія, з'яўляецца скульптурная кампазіцыя ў гарадскім парку – мядзведзь на задніх лапах разам з музыкамі. Фота забяспечанае Воляй ТРУБАЧ.**

# Падарожжа па горадзе, дзе вучылі танцаваць мядзведзяў і з'явіліся абаранкі

СМАРГОНЬ

**На вуліцы цеплыня, таму можаце смела рушыць у дарогу. На гэты раз накіруемся ў горад, які ўжо некалькі стагоддзяў мае сваю сакральную жывёліну, з'яўляецца малой радзімай абаранкаў, па легендзе, мае падземны ход да Крэва і Вільні. Рушым у Смаргонь.**

Старажытная назва Смаргоні – Смургоні. Паводле іншай версіі, першыя жыхары Смаргоні гналі дзёгаць з выкарчаваных пры раскарчоўцы дзялянак пнёў, так званых смар ці смураў. Адсюль і назва прафесіі мясцовых жыхароў – “смарогоны” ці “смургоні”.

### Уладальнікамі Смаргоні былі Дэспаты

Першымі ўладальнікамі Смаргоні былі Зяновічы, або Дэспат-Зяновічы. Гэта былі буйныя землеўладальнікі, якія ў 15-17 стагоддзях займалі дзяржаўныя пасады ВКЛ. Прыстаўка “Дэспат” узнікла ў канцы 17 стагоддзя, калі з'явілася легенда пра паходжанне Зяновічаў ад сербскіх дэспатаў.

Сербская дэспатыя – дзяржава, якая існавала на Балканскім паўвостраве ў 15-16 стагоддзях і стала апошняй сербскай дзяржавай, якая ўвайшла ў склад Асманскай імперыі.

На працягу шасці пакаленняў уладальнікамі Смаргоні быў род Радзівілаў. У адрозненне ад Зяновічаў, у іх не было тут рэзідэнцыі, таму яны часта здавалі свае ўладанні ў арэнду.

А знакаміты кароль **Станіслаў Радзівіл** (“Пане Каханку”), пры якім мядзведжы промысел у Смаргоні дасягнуў найбольшых вышынь, ездзіў летам у санках у мядзведжай вупражы па дарозе, пасыпанай соллю.

### Сустрэць мядзведзя на вуліцы – звычайная з'ява

Такая сітуацыя ў Смаргоні была тыповай ў 17 стагоддзі. Князі Радзівілы заснавалі ў горадзе школу дрэсіроўкі мядзведзяў – Смаргонскую акадэмію. Звяроў у ёй вучылі танцаваць, стаяць на задніх лапах, сядзець за сталом і інш. “Студэнтаў” можна было сустрэць на кірмашах у Прусіі, Венгрыі, Баварыі.

На гербе горада таксама мядзведзь на чырвонай рашотцы. І колер яе нездарма чырвоны: рашоткі награвалі да чырвонага колеру і пад гук бубна мядзведзі пачыналі перастаўляць лапы – “танцаваць”. Таму, калі звер чуў гук бубна, ён аўтаматычна танцаваў.

Праіснавала мядзведжая “акадэмія” да 19 стагоддзя. Цяпер напамінам пра яе з'яўляецца скульптурная кампазіцыя ў гарадскім парку – мядзведзь, які стаіць на задніх лапах разам з музыкамі. Стваралі скульптуру больш за дзесяць гадоў, устанавілі ў 2014 годзе.

Але і сёння акадэміі не пераводзяцца ў Смаргоні: на змену мядзведжай прыйшла сабачая. У некалькіх кіламетрах ад Смаргоні знаходзіцца кіналагічны цэнтр. Пошук кантрабанды, наркотыкаў і зброі – гэта справа новых “акадэмікаў”.

### Абаранкі прызначаліся выхаванцам мядзведжай “акадэміі”

Лічаць, што менавіта са Смаргоні ў 17 стагоддзі пайшоў заваёўваць свет абаранак.

Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што першапачаткова ласунак прызначаўся не столькі людзям, колькі выхаванцам мядзведжай “акадэміі” ў якасці сухога корму. І толькі пасля – як ласунак на продаж. Напрыклад, яго можна было набыць на кірмашы ў гонар святога Казіміра ў Вільні (“на Казюка”).

### Храм, у якім праводзілі набажэнствы розныя вернікі

У 1533 годзе ў Смаргоні па загадзе Юрыя Зяновіча пабудавалі каменны храм.

За свае 400 з лішнім гадоў будынак паспеў паслужыць і кальвіністам, і каталікам, і праваслаўным, і ваяўнічым атэістам. На сённяшні момант гэта касцёл імя Архістратыга Мікалая.

Асаблівасць храма – адсутнасць памяшкання, у якім знаходзіцца алтар (апсіды). Яго няма, паколькі першапачаткова храм належаў кальвіністам. Як вядома, пратэстанты выступаюць супраць пампезнасці ў набажэнствах.

Існуе легенда, што пад касцёлам ёсць падземны ход, які вядзе да Крэва і Вільні.

А ў тым месцы, дзе цяпер знаходзяцца былы кінатэатр “Космас” і пошта, раней стаяла драўляная царква. Яе неадночы перабудоўвалі, аднак ў 1960 годзе яна зачынілася. У канцы 1990 года ў горадзе з'явілася Спаса-Праабражэнская царква.

Гэта толькі невялічкая частка цікавостак пра горад. Таму ў вас ёсць магчымасць самастойна пашпацыраваць па Смаргоні, паглядзець на яе асаблівасці, даведацца пра шматлікія таямніцы. Для гэтага толькі трэба рушыць у дарогу.



**Воля ТРУБАЧ**
E-mail: ydaroze@mail.ru.

# Як з дзіравых калготак нараджаецца твор мастацтва

СМАРГОНЬ

**Лялькі з'яўляюцца любімымі цацкамі любой дзяўчынкі. Яны гадзінамі могуць бавіць час за тым, каб апрануць сваю прыгажуню, ствараць разнастайныя ўборы і прычоскі.**

З узростам з'яўляюцца новыя зацікаўленні, заняткі, таму лялькі і ранейшыя цацкі застаюцца толькі ўспамінам дзяцінства.

Аднак не ў выпадку **Алены Вайценкі**. Жанчына ў вольны час займаецца тым, што робіць разнастайныя па памеры, форме лялькі.

– Гадоў пяць таму захацела зрабіць ігольніцу-кветку, – расказвае жанчына. – Пачала шукаць у інтэрнэце ідэі і наткнулася на мноства іншых, як робяць абадкі, гумкі, заколкі з атласных стужак для валасоў у тэхніцы японскіх рамеснікаў "канзашы". І тут, напэўна, прачнулася мая творчая натура – самой захацелася зрабіць нешта падобнае. Таму гадоў пяць раблю гэтыя рэчы. Пасля ў інтэрнэце даведалася, як можна рабіць лялькі з тканіны і капрону, занялася і гэтым.

### Для лялек складана знайсці сінтэпон

Алена робіць лялькі з ільняной тканіны, з трыкатажу, капронавых калготак – у кожнай жанчыны іх дастаткова, з'явілася дзірачка – лічы новы матэрыял для лялькі.

Каб лялька мела форму, унутр матэрыялу кладзецца сінтэпон.

– Калі толькі пачынала рабіць лялькі, вельмі складана было знайсці сінтэпон, – дзеліцца жанчына. – У аграгарадку Сінькі, дзе жыву, толькі два магазіны, і тыя прадуктовыя, таму даводзіцца набываць сінтэпон у Смаргоні. Але і тут не заўсёды знойдзеш, а калі ўжо натраплю, то набываю ў запас.

Пасля гэтага пры дапамозе нажніц, нітак ляльцы надаецца пэўная форма.

Як адзначае жанчына, складана рабіць лялькі толькі напачатку, калі налаўчыцца, то атрымліваецца і за дзень. Цяжка працаваць над тварам лялькі. Напрыклад, калі робіш бабульку альбо дзядулю, твар трэба зрабіць маршчыністым, калі робіш маладую дзяўчыну, то твар робіцца па-іншаму.

Усе аксесуары для сваіх лялек: пацеркі, бранзалеты, Алена набывае ў магазінах.

– Шкада, што ў школе ў мяне не атрымалася навучыцца вязаць, – распавядае жанчына. – Я ляўша, таму калі пачынала вязаць, то атрымлівалася ў адваротны бок, нічога не выходзіла. Аднак вязаныя рэчы для лялек мне дапамагае рабіць свякроў. Яна вяжа манжэты пруткамі розных памераў, а я іх сшываю і атрымліваюцца кофты, шапкі. Адзенне з тканіны для лялек раблю сама.

Акрамя звычайных лялек жанчына робіць абярэгі. Напрыклад, шчасце і дабрабыт у доме сям'і Вайценкі ахоўвае дамавы.

### Усе лялькі дару сваякам

Усе вырабы, якія робіць майстрыха, яна дорыць сваякам, родным і знаёмым. Многія просяць прадаць лялькі, якія спадабаліся, аднак яна адмаўляецца ад такіх прапаноў.

– Напэўна, не маю камерцыйнай жылкі, – усміхаецца Алена. – Калі пытаюцца пра цану, то заўсёды бянтэжуся, узнікае адчуванне няёмкасці, не магу ацаніць свае работы. Калі ж прадам, то буду перажываць, ці спадабалася лялька чалавеку. Таму раблю ў сваё задавальненне. Магу памяняцца з іншымі майстрыхамі, якія робяць тое, чаго не ўмею я.

Работы Алены можна было ўбачыць на парадзе Дзядоў Марозаў у Смаргоні, вялікая лялька ў зялёнай сукенцы вісела на ёлцы, таксама на выставе ў Палацы культуры ў аграгарадку Сінькі. А яшчэ ў школе, дзе вучыцца яе старэйшы сын, калі праходзяць кірмашы.



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92



Фота з асабістага архіва Алены ВАЙЦЕНКІ.

Хобі Алены Вайценкі – выраб разнастайных па форме і памеры лялек.



Фота з асабістага архіва Алены ВАЙЦЕНКІ.

Работы Алены Вайценкі не купіш у магазіне, не замовіш праз інтэрнэт, іх яна дорыць блізкім.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Удзельнікі ўзорнага ансамбля гітарыстаў "Адэліта" наладзілі музычнае падарожжа па кантынентах.

## Перуанскія матывы і "Вяселле ў Малінаўцы" – калектывы з Вілейшчыны пацвердзілі званні

ВІЛЕЙКА

**У Палацы культуры 8 красавіка прайшоў 18 абласны агляд народных і ўзорных аматарскіх калектываў.**

У фае наведнікі пабачылі выставу – разнастайныя вырабы стварылі людзі пажылога ўзросту. Яшчэ і розную смакату прыгатавалі.

Выступалі ўзорныя ансамблі дзіцячай школы мастацтваў: скрыпачоў "Камплімент" і гітарыстаў "Адэліта".

Разам з больш дасведчанымі скрыпачамі выходзілі на сцэну і зусім юныя – з ансамбля "Мажорчыкі". А гітарысты з "Адэліты" наладзілі музычнае падарожжа па краінах і кантынентах: гучалі мелодыі ад беларускіх да перуанскіх.

Таксама пачулі віляйчане выступленні народных калектываў – хору ветэранаў вайны і працы, вакальнага гурта "Суквецце", ансамбля "Весялінка" Палаца культуры, хору "Любанія" Любанскага цэнтра культуры і вольнага часу.

Гледачы маглі не толькі пабачыць выступленні мясцовых артыстаў, але і пасмяяцца. І з жартаў артыстаў з Ільі, і з улюбёных рэплік з фільма "Вяселле ў Малінаўцы" – персанажы кінастужкі з'яўляліся на сцэне паміж песнямі.

Неаднойчы гучалі крыкі "брава" падчас канцэрта. Нават пасля яго, заўважыўшы артыстаў у краме, гледачы дзякавалі ім.

Ацэньвалі выступленні калектываў прадстаўнікі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці. Вырашылі яны, што тыя пацвердзілі свае званні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Навучыцеся танцаваць беларускія побытавыя танцы на майстар-класе

МАЛАДЗЕЧНА

На майстар-клас могуць завітаць усе ахвотныя: не мае значэння колькі вам год і ці маеце вы харэаграфічную адукацыю. Галоўнае тут, жаданне.

**Майстар-клас пройдзе 17 красавіка а другой гадзіне дня ў Маладзечне па Лібава-Роменскай, 71.**

Побытавы танец – гэта стыхійная праява пачуццяў, настрою, эмоцый і выконваецца ён у першую чаргу для сябе, і толькі потым – для гледача.

Майстар-клас праводзіць **Сяргей Выскварка**, музычнае суправаджэнне **Васіля Семашкевіча**. Сяргей Выскварка – збіральнік, даследчык і папулярызатар беларускай народнай танцавальнай культуры, этнахарэограф, этнапедагог, спецыяліст па традыцыйным танцавальным этыкеце і манеры выканання танцаў.

З'яўляецца мастацкім кіраўніком узорнага фальклорнага танцавальнага калектыву "Верабейкі" горада Любань.

Пад яго кіраўніцтвам з 2011 года ў межах рэгіянальнага фэсту народнай культуры "Пятроўскі фэст" праходзіць танцавальная школа "Пятровіца".

**Воля ТРУБАЧ.**

## У Мядзеле вызначылі чэмпіёна раёна па міні-футболе

МЯДЗЕЛ

**Дастойны фіналу матч выдалі 6 красавіка каманды "Зубраня" і "Спадарожнік".**

У зале фізкультурна-аздараўленчага цэнтра вызначалася, хто з іх стане чэмпіёнам раёна па міні-футболе.

Гледачы доўга не маглі ўбачыць забітых галоў. Калі да канца першага тайма заставалася менш за пяць хвілін, **Яўген Васіліцкі** з "Зубраняці" адкрыў лік у матчы. Ды як: забіў гол пяткай!

Гледачоў на матч прыйшло шмат, і дзяцей малых таксама. "Тата, а што ты парушыў?" – дапытваўся хлопчык у аднаго з гульцоў.

Да канца тайма "Зубраня" забіла яшчэ два галы. Здавалася, што ў другім тайме каманда зможа спакойна ўтрымаць лік.

Але каб жа так было: гульцы "Спадарожніка" рэалізавалі два моманты і скарацілі лік да 3:2. Але футбаліст "Зубраняці" ўдарам галавой перакідвае мяч праз варатара саперніка, і каманда зноў адрываецца на два галы – 4:2.

– Эх, не з'явілася яшчэ каманда, якая "Зубраня" абыграе, – падсумоўвае глядач.

Але за хвіліны тры да канца тайма інтрыга нарастае: лік становіцца 4:3. "Спадарожнік"! Давай яшчэ гол", – чутна з трыбун.

Апошнія хвіліны прайшлі нервова, моманты былі ў абедзвюх камандаў. І за пару секундаў да канца матча "Спадарожніку" ледзьве не ўдалося зраўняць лік.

Каманда "Зубраня" ўтрэці раз стала чэмпіёнам раёна па міні-футболе. "Спадарожнік" дэбютаваў у чэмпіянаце і адразу заняў другое месца.

**– Сэрца не зашчаміла на апошніх секундах, калі сапернікі ледзьве лік не зраўнялі?** – пытаю ў капітана каманды "Зубраня" **Віталя Філіповіча.**

– Не ведаю, як у маіх калег, а ў мяне асабіста не. Нават на табло не паспеў паглядзець.

"Зубраня" са "Спадарожнікам" ў чэмпіянаце сустракаліся другі раз. У першым матчы "Зубраня" выйграла 5:2.

– Фінал на тое і фінал, – разважае Віталь. – Сапернік сабраўся. Напэўна, лепшыя сілы прывёз, таму матч такі ўпарты і атрымаўся.

**– Спачатку момантаў у вас асабліва не было...**

– Напэўна, таму, што сапернік выбраў тактыку крыху ад абароны, і было цяжкавата пазіцыйна атакаваць.

**– "Спадарожнік" вас амаль што дагнаў...**

– Папраўдзе, нават пры ліку 3:2 дух пераможцы не пакідаў. Здавалася, што выйграем. Але ж бывае ўсялякае...

Віталя радуе, што ў чэмпіянаце з'явіўся годны сапернік:

– "Спадарожнік" – добрая каманда. Чым больш такіх камандаў, тым большая канкурэнцыя.

Дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак** узнагародзіў прызёраў чэмпіянату. Трэцяе месца заняла каманда "ІП Мядзел".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Маладзечанец зрабіў беларускую агучку для хакейнага сімулятара НХЛ 09

**Дзякуючы намаганням маладзечанца Вячаслава Курбакі, якога чытачы "РГ" ведаюць як Пан Шыманскі, мы атрымалі магчымасць згуляць у віртуальны хакей па-беларуску.**




Фота забяспечанае Вячаславам КУРБАКАМ.

Цяпер аматары віртуальнага хакея могуць гуляць з беларускай агучкай.

Як растлумачыў аўтар, ідэя стварыць беларускамоўны патч, ці абнаўленне да НХЛ 09 з'явілася даўно. Справа ў тым, што карпарацыя EASPORTS, што займаецца распрацоўкай віртуальнага дадатку НХЛ ад 2009 года, адмовілася ад выпуску яго на платформе персанальных камп'ютараў і ўсе выпушчаныя версіі НХЛ, пачынаючы з НХЛ 10 да НХЛ 16, можна выкарыстаць толькі на гульнявых кансолях PS і X-BOX.

Такім чынам, большасць аматараў дадзенага сімулятара апынулася адарванай ад навінак сусветнага хакейнага кібер-асяроддзя. Але гэта дало вялікі штуршок для мадыфікатараў, якія з новымі сіламі ўзяліся за працэс стварэння графічных і рознага роду іншых абнаўленняў і дадаткаў да сімулятара НХЛ 09. За гэты час створаныя чэшскія, славацкія, нямецкія, швейцарскія, фінскія і іншыя мадыфікатары да дадзенага сімулятара, а расійскі патч РХЛ-mod увогуле можна лічыць класікай жанру і самым графічна дасканалым дадаткам да НХЛ 09.

Стала крыху крыўдна, што краіна, у якой хакею надзяляецца столькі ўвагі і падтрымкі, застаецца без версіі сімулятара на роднай мове. Для стварэння першага беларускамоўнага патча "НХЛ 15 (MaHaBLRpatch)" Вячаславу Курбаку спатрэбілася вывучыць некалькі камп'ютарных праграм, прааналізаваць шмат рознага роду матэрыялу, перакласці каля дзевяці тысяч рускамоўных сказаў і праз некалькі месяцаў патч быў гатовы.

Чым жа адметны гэты патч акрамя беларускамоўнага інтэрфейса? У дадзенай зборцы вас чакаюць: Беларуская экстраліга, Чэмпіянат свету па хакеі, які ўключае ўсе 50 зборных з рэйтынгу ІІНF, турнір хакейнай Лігі чэмпіёнаў і магчымасць стварыць сваю каманду з любога горада краіны ад Пінска да Радашкавічаў. Парадуе аматараў беларускамоўная альтэрнатыўнай музыкі і саўнтрэк да гульні, які налічвае 13 песень ад беларускіх гуртоў розных накірункаў.

Беларускія кібер-энтузіясты распрацоўваюць праект "БХЛ 16", што будзе ўключаць самыя апошнія абнаўленні, што закранулі беларускі хакей. Таму ўжо цяпер можна казаць, што не за гарамі выхад і другой часткі першага беларускамоўнага патча MaHaBLRpatch 2.0 .

Спампаваць жа першы беларускамоўны патч NHL 15 (MaHaBLRpatch) можна ў суполцы Вконтакте "Малады Хакей", а таксама і азнаёміцца з правіламі па ўсталёўцы дадзенага дадатку да сусветнавядомай гульні.

**Аддзел інфармацыі.**

НАВІНЫ

## Нарачанец змагаецца ў фінале конкурсу на лепшага заўзятара Беларусі

МЯДЗЕЛ

Настаўнік **Леанід Краўчонак** з к. п. Нарач (Купа) удзельнічае ў фінале творчага конкурсу "Мабыць, лепшы заўзятар Беларусі".

Конкурс праходзіць у некалькі этапаў, да фіналу дайшлі два ўдзельнікі. Там яны падставілі відэа на тэму "Чаму менавіта я, мабыць, лепшы заўзятар Беларусі?", паведамляе pressball.by.

За Леаніда прагаласавалі карыстальнікі гэтага сайта, а за яго саперніка выказалася журы. Таму вырашылі, што будзе яшчэ адно выпрабаванне для фіналістаў.

Пераможца конкурсу атрымае пуцёўку на Чэмпіянат Еўропы-2016 і права ўручыць узнагароду Man of The Match першай зорцы гульні Расія–Славакія.

## Мядзяльчанкі заваявалі кубак вобласці

МЯДЗЕЛ

Каманда Мядзельскага раёна перамагла на кубку Мінскай вобласці па валейболе сярод жаночых камандаў. Спаборніцтвы праходзілі ў Старых Дарогах.

Каманда Мядзельшчыны ўпершыню заявілася на падобныя спаборніцтвы.

У мядзяльчанак была самая маладая каманда на спаборніцтвах: у складзе было аж пяць школьніц.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Смаргонь" сустрэлася з заўзятарамі і згуляла ўнічыю з маладзечанцамі

СМАРГОНЬ

**У Цэнтр культуры 9 красавіка завіталі мясцовыя аматары футбола – футбольны клуб "Смаргонь" праводзіў сустрэчу з заўзятарамі.**

У ёй удзельнічалі кіраўніцтва і трэнерскі штаб клуба, футбалісты, прадстаўнік райаддзела ўнутраных спраў.

Прадставілі склад каманды. Расказалі пра стан спраў у клубе, адказалі на пытанні заўзятараў.

– Сустрэча прайшла ў цёплай абстаноўцы, жартавалі нават, – расказвае заўзятар "Смаргоні" **Арцём Войтка**. – Склад добры, хоць і з маладых гульцоў. Задача перад камандай пастаўленая заняць месца, не ніжэйшае за шостае. Думаю, павінны яе выканаць.

**– А што ў абноўленым складзе каманды вас радуе?**

– Найперш, варатар наш, **Давыдаў**, нападаючы **Клешчанок**, паўабаронца **Чудноўскі**. А з мясцовых – **Лапко** ўзялі другім варатаром. Але, на мой погляд, ён яшчэ малады для другога нумара ў рамцы.

### "Смаргонь" – Маладзечна-ДЮСШ-4" 1:1

Заключны матч перад стартам чэмпіянату ў першай лізе ФК "Смаргонь" правёў з "Маладзечна-ДЮСШ-4". Матч прайшоў на стадыёне ДЮСШ.

Павялі ў сустрэчы маладзечанцы. Гол на 35-й хвіліне забіў **Ігар Талькоўскі**.

Смаргонцы маглі забіваць у другім тайме, але зраўнялі лік за тры хвіліны да канца матча. Гол у адказ забіў **Алексей Лазко.**

– Крыху недаацанілі саперніка, усё ж каманда другой лігі, – кажа прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**. – Выйшлі з такім настроем, што, як кажуць, "абыграем на адной назе". Але цяпер усе ўмеюць гуляць у футбол, і "на адной назе" цяжка кагосьці абыграць. Маладзечанцы далі нам урок.

Летась перад самым чэмпіянатам "Смаргонь" прайграла таварыскі матч "Зорцы-БДУ" 0:4 , а потым не прайгравала восем тураў.

– Такія вынікі перад чэмпіянатам даюць пэўны штуршок, – дадае Уладзімір Амбрасевіч.

Стартуе "Смаргонь" у чэмпіянаце 16 красавіка. У гасцях згуляе з "Зоркай-БДУ" са сталіцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## ● ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

*Сённяшняя тэма грэчаскай кухні – соусы. Маладзечанка **Наталля Скібіна** кажа, што ў Грэцыі нічога не ядуць без соусаў. Яны іх падаюць і да мяса, і да рыбы, і да гародніны. Усюды выкарыстоўваюць аліўкавы алей, але калі ў вас яго няма, то, думаю, можна дадаваць і сланечнікавы. Замест віннага воцату бярыце лімонны сок.*

**"Скордаля"**

Гэты соус найбольш падыходзіць да рыбы, у іх традыцыйна падаецца, як соус-гарнір да смажанай траскі. Вам спатрэбіцца 4-5 сярэдніх бульбін, 3 зубкі часнаку, 10-15 мл аліўкавага алею, 1 грэцкі арэх, 1 сталовая лыжка віннага воцату, соль, перац.

Бульбу абярыце і зварыце. Зліце ваду і дадайце тры прапушчаныя праз часночніцу зубкі часнаку, алей, перацёрты ў парашок грэцкі арэх, астатнія інгрэдыенты. Усё добра перамяшайце. Соус гатовы.

**Проста Марыя.**

## ● ТЭАТРЫ



# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**17 - 19 красавіка – гастролі Тульскага дзяржаўнага тэатра лялек**
"Воўк і сямёра казлянят" (вясёлы дзіцячы мюзікл), *С.Буракоў, рус.*
17 красавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**
МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

# Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**ГАСТРОЛІ СЛОНІМСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА**

**"Лясны дэтэктыў, ці Хто ўкраў святлафор"** (развіццёвая казка для дзяцей), *Н.Сініна*
16 красавіка – у 12:00

**"Вось табе і гоцаца"** (камедыя ў 2-х дзеях), *У.Галубок, А.Чужынін*
16 красавіка – у 17:00

**"Памяць, за сабой пакліч..."** (музычна-драматычны спектакль)
19 красавіка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Плачу наперад"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
22 красавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.
УНП 600066659

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 3 | | | 5 | 7 |
| | | 9 | | | | 8 | | |
| | 6 | 4 | | 5 | 7 | | | |
| 8 | | 7 | | | | | | 4 |
| | | | 4 | | 1 | | | |
| 4 | | | | | | 3 | | 5 |
| | | | 7 | 4 | | 6 | 1 | |
| | | 8 | | | | 2 | | |
| 9 | 7 | | | 2 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.





Кадр з фільма "Танцы ў пустыні". Фота variety.com.

## ● АФІША

# Кіно: у змаганні за жыццё ці мару нараджаецца новы герой

**КІНО МАЛАДЗЕЧНА**

Дзве прэм'еры падрыхтаваў кінапракат на гэтым тыдні.

Трылер **"Экіпаж"** з Данілам Казлоўскім у галоўнай ролі – гісторыя маладога таленавітага і прынцыповага лётчыка. За невыкананне абсурднага загада яго выганяюць з ваеннай авіяцыі. Але маладзён усё ж атрымлівае шанец быць пілотам грамадзянскага самалёта. Аднойчы ў аэрапорце здарыўся пажар. Людзі апынуліся ў пастцы, выбрацца з якой могуць толькі па паветры. Ці справіцца пілот і ці зможа выратаваць жыцці, глядзіце ў кіно.

Расійска-англійская карціна **"Танцы ў пустыні"** мае слоган "Свабода патрабуе мужнасці". Фільм зазняты на рэальнай гісторыі іранскага танцора Анфіша Гафарыяна. Ён змагаўся за свабоду самавыяўлення праз танец у краіне, дзе гэты від мастацтва па-за законам. Галоўны герой стварае падпольную танцавальную групу, і ў пустыні яны ладзяць сакрэтнае шоу. Але жыццё героя апынаецца ў небяспецы. Фільм распавядае пра змаганне за сваю мару, а таксама паглыбляе ў культурнае жыццё Ірана.

Для паходу ў кінатэатр з дзецьмі застаюцца дзве прапановы з мінулага тыдня. Еўрапейскі мульцік **"Рабінзон Круза: Вельмі заселены востраў"**, поўны прыгод і простага гумару.

Калі вы хочаце зрабіць з фільма сапраўдную падзею, ідзіце на **"Кнігу джунгляў"** у 3D. Жывёлы тут маляваныя, прычым вельмі якасна. А вось галоўнага героя іграе 12-гадовы акцёр індыйскага паходжання Ніл Сетхі. Фільм не толькі надзвычай насычаны і прыемны візуальна, ён праясняе нашы дыялогі пра сяброўства і самавызначэнне. Што робіць цябе моцным, чаму жыццёва неабходна мець сяброў, хто для цябе сапраўдныя сваякі? Чым адрозны чалавек ад прыроды і як гэтую адрознасць можна скарыстаць найлепшым чынам?

Футбольны сезон расчыняе дзверы для сёлетніх гульняў. А каб удвайне адчуць футбольныя хваляванні, аматары могуць наведаць расійскую спартыўную драму **"Скрынка"**.

**КІНО ВІЛЕЙКІ**

У кінатэатры "Мір" для кампаній найлепш падыдуць сусветныя прэм'еры **"Беласнежка і Паляўнічы 2"** і **"Бэтмэн супраць Супермэна: На досвітку справядлівасці"**. Хіба што першы фільм больш даспадобы прыйдзецца дзявочай кампаніі, а другі – мужчынскай.

Для сямейнага прагляду мы раім **"Кнігу джунгляў"**. Больш падрабязнае апісанне фільма чытайце вышэй.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары".**

## Зноў у Вілейцы з велікоднай радасцю загучаць галасы мужчынскага хору "Усіхсвяцкі"

**ВІЛЕЙКА, МІНСК**

Мужчынскі хор "Усіхсвяцкі" пры храме Усіх Святых у Мінску ужо вядомы ў Вілейцы. Летась выступаў тут з канцэртам, яго ўдзельнікі неаднойчы наведвалі памятныя мясціны Першай сусветнай падчас традыцыйнага аўтапрабегу.

Сувязь хору з Вілейшчынай невыпадковая: яго рэгентам і мастацкім кіраўніком з'яўляецца ўраджэнец Вілейкі **Дзмітры Такмакоў**.

Ён прыгадвае леташні канцэрт у Вілейцы з прыемнасцю:

– Ад гледачоў такая аддача адчувалася, што падобную рэдка дзе сустрэнеш. Гэта вельмі важна для любога артыста. Тое, як людзі прымалі, дадавала ўпэўненасці, драйву, настрою і хацелася ўсё больш і больш аддаваць гледачам.

За прайшоўшы год хор вырас у прафесійным плане, запісаў дыск. Ён заняў першае месца ў міжнародным фестывалі "Каложскі дабравест" у Гродне, удзельнічаў у маштабнай акцыі "Малітва за Беларусь", у адкрыцці выставы, прысвечанай мітрапаліту Філарэту, у Нацыянальным мастацкім музеі.

Растуць прафесійна як салісты і ўдзельнікі хору. Графік у іх напружаны: два разы на тыдзень рэпетыцыі, а таксама богаслужэнні, выступленні. А ў кожнага яшчэ ж і свая праца.

Пашыраюць рэпертуар хору: да духоўных спеваў дадаюць свецкія. Вялікую працу вядуць над ваеннымі песнямі. Асаблівую ўвагу звяртаюць на беларускую песню: усё, што звязане з творчасцю беларускіх кампазітараў і дзеячаў мастацтваў. Падрыхтавалі блок песень легендарнага ансамбля "Песняры", прысвечаны памяці **Уладзіміра Мулявіна**.

– Над імі давялося шмат папрацаваць, каб захаваць усю палітру гучання менавіта ў мужчынскім харавым выкананні, – кажа Дзмітры.

Так што, для майскага канцэрта ў Вілейцы падрыхтавалі новую праграму. Пройдзе ён на Светлай сядміцы, таму ў праграме будуць велікодныя спевы. Пачуюць віляйчане народныя, казацкія, ваенныя песні і творы "Песняроў".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



## ● ГАРАСКОП
## 8-14 КРАСАВІКА


**Авен.** Ёсць верагоднасць, што вам прыйдзецца абараняць дасягнутыя вышыні. На шчасце, калі ўсе бакі, уцягнутыя ў канфлікт, пацісnуць адзін аднаму рукі, вам не прыйдзецца супрацоўнічаць з тымі, хто не ў стане годна ацаніць ваш патэнцыял.


**Цялец.** Вам можа паступіць шчодрая прапанова, якая мае надта шмат пераваг, каб ад яе адмовіцца. Вам трэба ўсё добра абдумаць і падзякаваць нябёсам за такі падарунак.


**Блізняты.** Калі ў вас сямейныя і любоўныя справы перажываюць не лепшы перыяд, то перагледзьце сваю манеру паводзін з партнёрам. Памятайце, што кожны чалавек мае права на памылку.


**Рак.** Дазвольце лёсу самастойна расставіць прыярытэты, ён ведае, што вам у першую чаргу трэба. І вырашайце пытанні, бо няма такога чалавека, які зможа ўстаяць перад націскам вашага абаяння.


**Леў.** Аказвайце знакі ўвагі блізкім людзям, часцей усміхайцеся, спявайце пры выкананні манатоннай работы – карацей, жывіце жыццём, поўным шчасця.


**Дзева.** Планеты выстраяцца ў спрыяльную для вас канфігурацыю, і гэта будзе азначаць пачатак новага перыяду, спрыяльнага для фінансавых спраў і рамантычных адносін.


**Шалі.** Заплануйце цяпер прыемныя вашаму сэрцу клопаты, і ваш поспех гарантаваны – так гавораць зоркі.


**Скарпіён.** Радуйцеся! Вы недарэмна працавалі ўвесь гэты час, цяпер атрымаеце па заслугах. Калі што планавалі сур'ёзнае, то час настаў.


**Стралец.** Вы адчуеце бязмежную ўпэўненасць у сваіх магчымасцях. Вы разумныя, абаяльныя і можаце быць надзвычай пераканальнымі ў довадах.


**Казярог.** Паклапаціцеся пра сваё здароўе. Калі яно няўстойлівае – трэба яго палепшыць, калі самі гэтага не зможаце зрабіць, звярніцеся па дапамогу.


**Вадалей.** Ідзіце наперад і не спыняйцеся. Вас могуць адольваць страхі, можа ўзнікнуць нерашучасць, але памятайце – вочы баяцца, а рукі робяць. Кіруйцеся гэтым прынцыпам. У вас больш чым дастаткова сіл, умення і магчымасцяў, каб пераадолець любыя перашкоды.


**Рыбы.** Спрыяльны час для наведзення дамашняй утульнасці, набыцця рэчаў, карысных у быце.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

9 771991 715006
ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 16 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +4 / +8 | | +1 / +9 | | +7 / +13 | | +5 / +9 | |
| | 738 | ↘ 6 | 740 | ↑ 5 | 735 | ↗ 5 | 740 | → 12 |
| Вільня | +1 / +8 | | +2 / +9 | | +6 / +11 | | +3 / +10 | |
| | 748 | ↓ 5 | 746 | ↑ 5 | 740 | ↖ 3 | 749 | → 11 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.06
Захад 20.18
Даўжыня дня 14.12

Усход 14.09
Захад 4.07
Квадра 2




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### НАРАЧ (КУПА)

Мінімальная тэмпература -4 °C у 1979 годзе
Максімальная тэмпература +19,8 °C у 1984 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,6 мм у 2002 годзе
Паводле meteoinfo.by

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што трэба зрабіць, каб прадукцыя нашай вытворчасці добра ішла на экспарт?



**Алена Мельнікава, бухгалтар:**
– Якасць палепшыць. Таму што часам бывае цана вышэйшая, як на тавары іншых краін, а якасць горшая. Ці знешыць цану, і калі купляеш танней, то разумееш, на што ідзеш.



**Аляксандр Галах, вядучы інжынер:**
– Выраблць штосьці патрэбнае. Калі б я адкрываў новую вытворчасць, то, напэўна, звязаную з камп'ютарнай тэхнікай. Мазгоў у нас хапае, а кіраўнікоў варта крыху падвучыць.



**Людміла Сідаровіч, повар:**
– На прадпрыемствы трэба запускаць маладых энергічных спецыялістаў, якія ўмеюць прадаваць. Якія выдатна навучаныя, у тым ліку добра ведаюць псіхалогію.



**Арцём Лытысаў, праграміст:**
– Усё дзяржаўнае трэба аддаць камерсантам. Яны зробяць прадукцыю канкурэнтаздольнай, таму што будуць выкарыстоўваць навейшае абсталяванне і плаціць высокія заробкі.



**Зоя Гец, настаўніца:**
– Выраблць больш прыгожыя і якасныя рэчы. Мы маглі б добра прадаваць малочную прадукцыю, трыкатаж, сувеніры, напрыклад, абрусы і ручнікі.



**Міхаіл Сімановіч, сталяр:**
– Каб больш прадаваць, трэба выраблць больш адзінак прадукцыі.



**Анатоль Бараноўскі, сацыяльны педагог:**
– Трэба добрасумленна ставіцца да сваіх прамых абавязкаў. Няважна, кім працаваць, важна быць адказным і сумленным.

**Падрыхтавалі Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Ці часта вам даводзілася бачыць, як у гандлёвых цэнтрах пакупнікі падоўгу выбіраюць садавіну і гародніну, перабіраючы, мацаючы ўсё. Ці дазваляе гэта рабіць санстанцыя і ці можа быць бяспечным ужыванне такіх прадуктаў, якія да вас мацаў хворы чалавек?**

# Рэгіструйцеся на "Розум-шоу"

МАЛАДЗЕЧНА

**Інтэлектуальная камандная гульня пройдзе ў Маладзечне ў нядзелю, 24 красавіка, у 15:00 у канферэнц-зале бібліятэкі "Верасок".**


Фота brahmakumaris.in

Вядоўца гульні – уладальнік "Хрустальнай савы" **Павел Свярдлоў**.
Рэгістрацыя на ўдзел адбываецца загадзя па тэлефоне **(80176) 76-06-56 ці (8033) 669-12-18.**

**Аддзел інфармацыі.**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Жонка:
– Што, раўнуеш?
Муж:
– А як думаеш, зайздрошчу, што табе мужыкі смс-кі пішуць, а мне не?

***

Бабулю, якая ўмее пісаць смс-кі, сяброўкі ў двары называюць вядзьмаркай.

***

Здарэнне ў раі.
– Да вас там атэісты прыйшлі.
– Перадайце, што мяне няма.

***

– Дачушка, а ты бра-ціка хочаш?
– Хачу.
– Тады спі!



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№16 (1094) 15.04.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 348. Падпісана ў друк у 9.00 14.04.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.